*Жыве Беларусь!*

# БЕЛАРУС

Address:
166-34 Gothic Drive
Jamaica, NY 11432

BIELARUS/Belarusan newspaper in Free World ISSN 1054-9455
Published by the Belarusan American Association, Inc.
bielarus@bazahq.org

№ 596 Студзень, 2013 г.
Год выданьня 64

## Шаноўныя чытачы!

Першы студзеньскі нумар нашай газэты мы пачынаем ізноў, як і апошні мінулагодні, тэмаю Калядаў. Сьвята Божага Нараджэньня ў студзені адсьвяткавалі праваслаўныя беларусы на Бацькаўшчыне і ў замежжы. Падаем інфармацыі пра сьвяткаваньні ў Нью-Ёрку, у Таронта, у далёкім сібірскім Іркуцку.

На студзень сёлета прыпалі 150-я ўгодкі важнейшай падзеі ў беларускай гісторыі – паўстаньня Каліноўскага і мы таксама адзначаем гэты слаўны юбілей на старонках газэты.

Такая адметная падзея ў сучаснай гісторыі ЗША, як інаўгурацыя амэрыканскага прэзыдэнта Барака Абамы, абранага на другі тэрмін, не магла таксама не быць адлюстраванаю ў нашым выданьні.

Менш увагі гэтым разам мы надалі палітычным падзеям у Беларусі, дзе не адбылося істотных зьменаў да лепшага, а галоўнай падзеяю дзяржаўныя СМІ лічылі прэс-канфэрэнцыю Лукашэнкі, якую мы ня сталі тут асьвятляць, бо нічога новага там не было, акрамя папулізму.

Аднак лічым патрэбным адносна беларускай сытуацыі зьвярнуць вашую ўвагу на інфармацыю “Дзе мы ёсьць?” пра публікацыю Сяргея Навумчыка, у якой ён распавядае пра скандальны факт, зь якім сутрэўся пры ўезьдзе ў Расею.

Апрача названых вы знойдзеце для сябе і іншыя патрэбныя інфармацыі – пра новыя кнігі Зянона Пазьняка, пра гастролі Вольнага тэатру ў Нью-Ёрку, пра стварэньне новай суполкі БАЗА ў Паўднёвай Флярыдзе. Раім таксама зьвярнуць увагу на Каляндар памятных датаў на люты, там ёсьць шмат датаў, якія варта было б адзначыць у беларускіх суполках.

Па-ранейшаму чакаем ад вас новых допісаў, інфармацый, паведамленьняў, твораў.

Віншуем нашых чытачоў з надышоўшым Новым годам і жадаем далейшага плённага супрацоўніцтва дзеля падтрымкі нашай і вашай газэты. Добрага ўсім здароўя, посьпехаў і шмат радасных дзён у 2013 годзе!

*Рэдакцыя*

# КАЛЯДНАЕ АРХІПАСТЫРСКАЕ ПАСЛАНЬНЕ

*Учора зьвячора, учора зьвячора*
*Засьвяціла зора, засьвяціла зора …*
*Хрыстова Ражджэньне, Хрыстова Ражджэньне –*
*Людзям на збаўленьне, людзям на збаўленьне …”*

*Беларуская калядка*



### Любыя браты й сёстры ў Хрысьце !

Кожны год мы ўрачыста сьвяткуем дзень Хрыстовага Нараджэньня. Гэтае сьвята для хрысьціянаў вельмі важлівае, бо сам Госпад – другая асоба Сьвятое Тройцы – Сын Божы Ісус Хрыстос прыйшоў на Зямлю каб пазьней прынесьці Сябе ў ахвяру дзеля збаўленьня ўсяго чалавецтва. Ад часу гэтае гістарычнае падзеі Хрыстова Царква ўзбагацілася мноствам Сьвятых людзей, якія па прыкладу Боскаму, самы сваё жыцьцё ахвяравалі Богу. Шмат такіх было і ў Беларускай Царкве. Беларускія Сьвятыя былі душой і гонарам свайго народу й на працягу стагодзьдзяў фармавалі духоўнае аблічча Беларускае нацыі. Абаронцы веры й Бацькаўшчыны жылі ў кожную эпоху, і цяпер маці-Беларусь мае такіх сыноў і дачок.

Беларусы-ліцьвіны, якія самы ці іхныя бацькі вымушаныя былі апынуцца ў Замежжы, выявілі сваю любоў да зямлі дзядоў захаваньнем роднае веры, мовы й культуры, пабудовай Беларускіх храмаў, дзе ўзносяцца малітвы за волю Беларусі і за ейны народ. І не канадзкія маразы, не аўстралійская сьпякота ніколі ня перашкаджалі ім радасна сустракаць Беларускія Каляды.

Далёка ня кожнаму Госпад дае сілы духу й магчымасьці змагацца за родную веру й свой народ, але ўсе зможам ўзьнесьці малітву за тых, хто пакутуе за праўду ў зьняволеньні й на выгнаньні, за ўсіх нашых суайчыньнікаў, што жывуць на Бацькаўшчыне й на Чужыне. І хай Каляднікі прыходзяць у кожную беларускую хату і радасна віншуюць:

Хрыстос нарадзіўся! Слаўце Яго! *Зь любасьцю й малітвамі,*

*+ Сьвятаслаў,*
*Архіяпіскап Наваградзкі, Першаярарх*
*Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы.*

*Катэдральны сабор Сьв. Кірылы Тураўскага, г. Нью Ёрк, ЗША.*
*Каляды 2012 / 2013 л.Б.*

# Сьвяты ў Нью-Ёрку



Другая палова сьнежня і першая палова студзеня, як вядома, час суцэльных сьвятаў, якія не толькі цешаць нас, але і патрабуюць шмат арганізацыйнай працы, каб ва усёй нашай беларускай грамадзе адчуваўся сьвяточны настрой, каб мы не пачуваліся горшымі за іншыя нацыянальныя супольнасьці.

У беларусаў Нью-Ёрку скляліся свае традыцыі сьвяткаваньня. Галоўная з іх, што мы сьвяткуем Каляды двойчы – па старому і новаму стылю, бо сярод нас ёсьць людзі і праваслаўнага і каталіцкага, і пратэстанцкага веравызнаньняў.

А вось Новы год сустракаем усе разам без падзелаў, бо гэта сталася больш сьвецкім сьвятам, хаця новы год наступае, лічачы менавіта ад нараджэньня Хрыстова. Можа таму, менавіта Парафія Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага штогод арганізуе у грамадзка-царкоўнай залі на Атлянтык Авэню 401 урачыстую сустрэчу Новага году. Бяруць удзел у гэтай справе і структуры БАЗА. Сёлета ўвечары 31 сьнежня ў залі таксама сабралася наша бела

*Працяг на 2-й бачыне*

# Сьвяты ў Нью-Ёрку



Працяг з 1-й бачыны

руская грамада за сьвяточным сталом. Праводзілі адышоўшы і сустракалі новы год у добрым настроі. Нашы руплівыя гаспадыні падрыхтавалі надзвычай багаты пачастунак, адных толькі гарачых страваў было шэсьць розных гатункаў на ўсе густы. Вялікая падзяка за гэта належыцца Але Трапашка, Ганьне Агароднік, Шуры Лістоўскай. Да таго ж, сп. Ала Трапашка арганізавала забаўляльную праграму і сама нават выконвала ролю Дзеда Мароза. Так што выглядала, што мы маем свае таленты і можам шмат чаго зрабіць уласнымі сіламі. Сапраўдным упрыгожваньнем сьвята стала музычнае віншаваньне, якое даслалі нам беларусы з Таронта.

Праваслаўныя Каляды ў беларускім цэнтры ў Нью-Ёрку штогод адзначаюцца традыцыйнай “Ялінкаю”. Гэтым разам, праўда, давялося гэтую імпрэзу перанесьці на нядзелю 13 студзеня, пад “стары” Новы год. Галоўная адметнасьць гэтага Сьвята – прысутнасьць дзетак.

Усе яны цэлы год чакаюць гэтай “Ялінкі” і разам з бацькамі, бабулямі і дзядулямі, прыгожа апранутыя прыходзяць у грамадзкую залю.

Пасьля Багаслужбы ў царкве асноўная калядная дзея разгортваецца ў грамадзкай залі. Пасьля смачнага сьвяточнага абеду за справу бяруцца арганізатары мастацкай часткі сьвята Андрусь і Галіна Падлескія, яны запрашаюць прыняць удзел у гульнях і сустрэчы Сьвятога Мікалая, які прыйдзе з падарункамі. Дзеці, якія да гэтага часу ўжо пасьпеюць набегацца вакол ялінкі і нагуляцца з рознакаляровымі балёнчыкамі, сьцішваюцца і гуртуюцца каля родзічаў. Зь імі шэптам рыхтуюцца да выступаў, бо Сьв. Мікалай дасьць падарункі толькі тым, хто раскажа верш, сьпяе песьню, ці станцуе.



А пакуль у залю прыходзіць шэсьце Калядоўшчыкаў з “Зоркаю” ды “Казою”. Сп. Орса Рамана сабрала грамаду разам і навучыла прыгожа сьпяваць “Калядкі”. Гэтыя “Калядкі” гучалі пад час усёй імпрэзы і стварылі асаблівы ўзнёслы настрой.

Сьв. Мікалай не замарудзіў, прыйшоў зь мяхом падарункаў, і сустракаць яго пабеглі найперш самыя маленькія. Максімка Капытка бегаў па залі і шукаў свайго бацьку, каб паведаміць яму, што прыйшоў Сьв. Мікалай. Старэйшы Капытка так удала ўвайшоў у сваю ролю, што яго нават не пазнаў уласны сынок. Трэба падзякаваць Сяргею за тое, што ён кожны год радуе нашу дзятву ў касьцюме Сьв. Мікалая.

Каля ялінкі атрымаўся сапраўдны канцэрт, пачалі яго ізноў самыя маленькія, бо дужа іх прываблівае мех з падарункамі. А Сьв. Мікалай так ветліва ўсіх сустракаў, што нават самыя сьціплыя не баяліся выступіць. Малыя больш вершыкі гаварылі ці песенкі сьпявалі. А вось старэйшыя ўжо і больш складаныя нумары паказвалі. Лявон Дудараў нават беларускі рэп прадэманстраваў. А бацька з сынам – Падлескія выканалі дуэтам “Саўка ды Грышка…” Андрусь іграў на дудачцы, а Данілка прыгожа сьпяваў. Данілка таксама прасьпяваў “Бульбу” пад акампанемэнт ягонай сястрычкі Паўлінкі, якая авалодвае ігрою на піяніна ў музычнай школе.

Сёлетняя “Ялінка” была адметная тым, што акрамя Сьв. Мікалая дзеткам і дарослым зрабіла добры падарунак беларуска з Нью-Ёрку Вольга Новікава, зь яе ласкі каля ялінкі стаялі цэлыя скрынкі розных смачных беларускіх цукерак і кожны мог есьці і браць з сабою, колькі хацелася. Такой раскошы раней у нас ніколі не было. Шчыры дзякуй сп. Новікавай!



*Андрусь і Данілка Падлескія*

А потым дзеці і дарослыя вадзілі карагоды вакол ялінкі і сьпявалі вясёлыя калядныя мэлёдыі. Доўга яшчэ не разыходзіліся, не хацелася, каб сьвята скончылася, бо новага чакаць яшчэ цэлы год.

*Ганна Сурмач*

# Калядны настрой, або дзіцячая “Ялінка-2013” у Таронта



*На «стары» Новы год Галоўная ўправа Згуртаваньня беларусаў Канады і царква св. Кірылы Тураўскага зладзілі дзіцячую “Ялінку-2013”.*

*Ганна Лябёдкіна пагутарыла са старшынёй Згуртаваньня беларусаў Канады Валянцінай Шаўчэнка:*

- Праграма “Ялінкі” была цікавая і своеасаблівая. Было відаць, што дзеткам і бацькам спадабалася.

- Так, праграма “Ялінкі”, як заўсёды, была насычанай. Тэатралізаваная інтэрактыўная казка “Рэпка”, пастаноўка песьні “Раз марознаю зімой”, карагоды вакол ялінкі, аркестар Дзеда Мароза і сапраўдныя каляднікі зь песьнямі і гульнямі не далі засумаваць ні бацькам, ні дзеткам. А ахвотнікаў распавесьці верш, прасьпяваць ці станчыць і атрымаць падарунак ад Дзеда Мароза было столькі, што ім прыйшлося займаць чаргу. Згуртаваньне беларусаў Канады і царква сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта штогод ладзяць “Ялінку” для самых маленькіх нашых сяброў, і я вельмі ўсьцешаная тым, што заўсёды зьбіраецца шмат ахвотных падараваць дзеткам сьвята. Хачу сказаць гэтым людзям вялікі дзякуй за дапамогу ў падрых-тоўцы да “Ялінкі”, за тую сьвяточную атмасфэру і цеплыню. Наогул, у гэтым годзе ў нас атрымаўся проста шыкоўны ранішнік.

- Сёлета і падарункі ў вас незвычайныя. Самаробныя. І выстава цудоўная.

- Так склалася, што падарункі на ялінку штогод рыхтуе царква сьв. Кірылы Тураўскага. А ў гэтым годзе бацькі вырашылі далучыцца і зрабіць частку падарункаў сваімі рукамі, бо дзяцей



у Канадзе цяжка зьдзівіць падарункамі, калі гэта не сапраўдны кабрыялет ці кампутар "Apple". І вось доўгімі зімовымі вечарамі ў клюбе майстроў і майстрых, нядаўна створаным на базе ЗБК, бацькі займаліся вырабам цацак для ялінкі. Да гэтай справы далучыліся ня толькі мамы, але і таты (сьмяецца). Наш цацачны марафон пачаўся загадзя, у кастрычніку, каб пасьпець да сьвята нашыць, навязаць конікаў, хамелеонаў, кажаноў, жырафаў ды іншых цікавых істот. І настолькі бацькі захапіліся гэтым заняткам, што ў выніку кожнае дзіця атрымала сваю непаўторную ёлачную цацку-абярэг зь беларускім старажытным імём, напрыклад, такім, як Харытон, Агрыпіна, Пелагея, а яшчэ — паштоўку-фотаздымак да сваёй цацкі. Самае цікавае ў гэтай гісторыі, што ўжо ёсьць ідэі самаробных падарункаў і на наступны год.

Сёлета ўпершыню ЗБК зладзіла выставу дзіцячай творчасьці "Калядны настрой-2013". Мы вельмі радыя, што дзеткі ўзялі актыўны ўдзел у нашай выставе, якая, напраўду, стварыла адпаведны ўтульна-калядны настрой у беларускім цэнтры. Заміловае тое, што можна пабачыць нават працы немаўлятак – дзяцей да году.

- А чым адметная беларуская "Ялінка" ў Канадзе?

- Найперш тым, што яна праводзіцца цалкам па-беларуску, бо тут, у Канадзе, гэта вельмі важна. Рэч у тым, што некаторыя дзеткі, на жаль, беларускую мову чуюць хіба толькі тут, у нашым цэнтры, раз на год падчас ранішніка. Адна з мэтаў ЗБК – захаваньне беларускай традыцыі, у тым ліку і каляднай, таму на "Ялінку" абавязкова завітваюць каляднікі. Дзецям і дарослым вельмі падабаюцца гульні з казой, і яны ахвотна забаўляюцца з каляднікамі.

- Валянціна, як кажуць, сьвята не паспела скончыцца, а ў вас ужо ёсць пляны на наступную "Ялінку".

- Так, плянаў шмат заўсёды. Мы даўно ўжо марым пра батлейку – традыцыйны для Беларусі калядны лялечны тэатар. І дасьць Бог, ажыцьцявім нашую мару на наступны год. Таксама плянуем пашырыць наш рэпэртуар для самых маленькіх і ладзіць больш мерапрыемстваў для дзяцей. Такая запатрабаванасьць узьнікла, бо за апошнія гады ў сябраў ЗБК нарадзілася шмат дзетак, бацькі якіх жадаюць далучаць ужо змалку сваіх нашчадкаў да беларускага слова, да беларускай культуры.

*Ганна Лябёдкіна*

# Традыцыйныя Каляды ў Іркуцку

Больш за 16 гадоў існуе Рэгіянальнае грамадзкае аб'яднаньне "Іркуцкае таварыства Беларускай культуры імя Я.Д.Чэрскага" (ІТБК) і за ўвесь гэты час традыцыя зьбірацца на Каляды не прыпынялася ні разу.

Памятаецца ўжо далёкі 1997 год, калі ўпершыню на Каляды мы сабраліся ў актавай зале школы № 31 мікрараёна Зялёны і сваімі тады яшчэ сьціплымі сіламі правялі гэтае сьвята. Але вось што дзіўна: з першага разу стыль правядзення Калядаў не зьмяніўся ні разу. Спачатку канцэрт нашых творчых калектываў і індывідуальных талентаў, затым калядны блёк з гумарам і традыцыйнымі песьнямі, а потым танцы і бяседа (з тостамі і добрымі, зноў жа, традыцыйна беларускімі закускамі). А пачынаючы з 2007 года зьявілася яшчэ адна выдатная традыцыя. Да нас на Каляды пачалі прыяжджаць з канцэртнай праграмай знакамітыя артысты зь Беларусі: Кася Камоцкая, бард Віктар Шалкевіч, лідар гурта сярэднявечнай музыкі "Стары Ольса" - Зьміцер Сасноўскі, паэтка Тацьцяна Беланогая, этна-рок музыка Зьміцер Вайцюшкевіч, бард Алесь Камоцкі. А сёлета нас наведаў легенда беларускага рэпу Аляксандр Памідораў.

Кожны такі прыезд таленавітых зорак беларускай песьні стварае сьвяточны настрой на некалькі дзён. Зносіны, абмен думкамі, знаёмства іркуцкіх беларусаў з артыстамі з метраполіі, магчымасьць параўнаньня і магчымасьць для нас, сібіракоў, адзначыць каларыт кожнага госьця – гэта дарагога варта! Проста выдатна, што на "Калядных Сустрэчах" мы можам убачыць часьцінку нашай гістарычнай Радзімы! Пагутарыць "ужывую" з таленавітымі суродзічамі з Бацькаўшчыны! Хочацца шчыра падзякаваць усім артыстам зь Беларусі за падтрымку нашага беларускага духа тут, у Сібіры! Мы вельмі радыя, што ў сьвяточныя дні вы былі з намі.



Сёлета Каляды прайшлі, як заўсёды, 7 студзеня. Гэтым разам мы сабраліся ў прасторнай залі абласной філярмоніі. Сабралася гледачоў крыху менш за сотню. На жаль, ня ўсе змаглі прыйсьці нават з нашых актывістаў. Маразы, запляnaваныя даўно паездкі, нечаканыя сваякі, госьці здалёк і шмат іншых аб'ектыўных і суб'ектыўных перашкод. Што ж, кожны выбірае свае прыярытэты. Але ўсё ж самыя "верныя" беларускім традыцыям актывісты ТБК і нашыя госьці сабраліся традыцыйна разам у гэты дзень. І ні ад каго я не пачуў, што ён пра гэта пашкадаваў. Сьвята атрымалася выдатнае!

Спачатку выступілі два нашыя іркуцкія фольк-гурты "Ленушка" і "Крывічы". Кожны з ансамбляў прасьпяваў па дзьве традыцыйныя беларускія песьні. Вядома ж, яны маглі прасьпяваць і больш, бо нашым гледачам іх выступы заўсёды даспадобы. Фальклорны ансамбль "Ленушка" (паводле назвы сібірскай ракі Лены, на берагах якой таксама сяліліся беларусы) і ансамбль аўтэнтычнай песьні "Крывічы" крыху адрозьніваюцца сваімі стылямі. У "Ленушкі" песьні аўтарскія і народныя, часам у апрацоўцы, часта пад акампанэмэнт, бадзёрыя і мелядычныя. У "Крывічоў" - працяжныя баладныя і абрадавыя, выконваюцца толькі акапэльна, разьлічаныя на шматгалосьсе, традыцыйна "вясковыя", старадаўнія, асабліва дарагія "бабуліны" песьні, якія гучаць маладымі звонкімі галасамі. Летась кожны з гэтых ансамбляў, дзякуючы спонсарскай дапамозе Істоміна Г.В., Жука Д.Л. і Навумава В.А., выпусьціў свой дыск. Іркуцкім гледачам (зрэшты, ужо і за межамі Іркуцкай вобласьці, і нават у Беларусі) яны добра вядомыя, бо выступалі са шматлікімі канцэртамі.

І ўсё ж галоўная інтрыга сёлетніх Калядаў была наперадзе. Нашыя ансамблі саступілі сцэну госьцю зь Менску, знакамітаму беларускаму рэперу і панк-рок музыку Аляксандру Памідораву. Інтрыга была яшчэ і ў тым, што, як мне прызнавалася адна іркуцянка, знаёмая з творчасьцю нашага госьця, было цікава пачуць песьні Аляксандра не ў рокавым выкананьні, а пад звычайную гітару.

Сп. Памідораў скарыў гледачоў цудоўным майстэрствам ігры на дванаццаціструннай гітары. А яго аўтарскія песні гарманічна гучалі і без рок-суправаджэньня. Праўда, падвяла апаратура. Аляксандру давялося адысьці ад мікрафонаў і адключыць ад узмацняльніка гітару. Але акустыка залы дазволіла стварыць добрае гучаньне і без электрычнасьці, нават дзесьці гучаньне было і лепшым, утульнейшым, было асабліва відаць і чуваць майстэрства віртуоза. Аляксандр Памідораў на працягу гадзіны выконваў свае песьні пад дружнае плясканьне, а ў канцы яго выступу, "нечакана" прыйшлі калядоўшчыкі!

І пачалося... Мала таго, што сьпяваюць вясёлыя калядкі, дык яшчэ і жартуюць. А тут Каза з Ваўком у скокі пайшлі! А Мядзведзь сёлета асабліва зьдзівіў - давай "кола" па сцэне круціць, праз галаву куляцца – няйначай з цырка зьбег! Ну а Каза ня вытрымала, у народ пабегла. Ды ўсё на карысьць! Бо Каза ў беларускай міфалёгіі – сымбаль здароўя і ўрадлівасьці! А тут яшчэ Дзед вазьмі і скажы: "А Каза мая дужа чароўная! Калі паглядзіць каму ў торбачку ці сумачку якую, то

*Працяг на 4-й бачыне*

# Традыцыйныя Каляды ў Іркуцку

*Заканчэньне з 3-й бачыны*

будуць там у вас грошы цэлы год вадзіцца! А можа ў каго і даляры з эўра нават! Ну а каго мая Каза бадне рогам альбо пхне нагой, дык той здароўя на цэлы год прыдбае!”

І што вы думаеце? Народ наш традыцыю памятае і выконвае! Як толькі Каза са сцэны скокнула, усе да яе і пацягнуліся. Сумачкі паказваюць, сьпіны пад “рогі” падстаўляюць. А тыя, хто далёка сядзеў, зь месцаў паўставалі, рукі працягваюць, толькі б Каза іх зачапіла. А што ж, усім хочацца быць здаровым і багатым ў Новым годзе!

Але вось няўдача – “Каза наша ўпала, здохла, прапала!” І вось ужо за справу бярэцца прафэсійны “Механоша”. Уласна прафэсіяналізм яго заключаецца ў простым “выбіваньні хабару”. Пабалакаў на сцэне наш "Механоша", жартачкі прамовіў і таксама ў народ са словамі: “Нашай Козачцы нямнога трэба, два боханы хлеба, сем печ перапеч, а яшчэ аладкі, каб бокі былі гладкі, а яшчэ таго мала, дайце шматок сала, а хто харошы, хай насыпле грошы!”

Ну як тут адмовіш такому “профі”? Гледачы нашыя шчодрыя сабраліся (мне потым калядоўшчыкі прызналіся пад сакрэтам), у мех "Механошы" і цукерак накідалі, і манетак, і нават парачка сотачак-пяцісотачак прамільгнула, і, як заўсёды, нехта паклаў традыцыйна прыгатаванага беларускага сала! Гэта асабіста мяне больш за ўсё парадавала. Жыве традыцыя! А пакуль па зале "Механоша" ходзіць, астатнія калядоўшчыкі стараюцца, калядныя песенькі сьпяваюць. Весела! Добра! Ну вось, здаецца, усіх "Механоша" абыйшоў. Тут "Дзед" і кажа:

“Ня хоча Каза ўставаць – трэба лекі ёй даць: нацерці бок кійком, падняць батагом. Каза мая



вучоная, кіем хрышчоная, прайшла ўсе навукі, ведае розныя штукі. Ану, Каза, уставай, з хаты выхадзі, бяду вынасі. Уцякай хутчэй з гаспадарскіх вачэй! А ў гэтым доме ня шкодзіць нікому! От, дзякуй вам, спадарства, за багатыя падарункі. Ну а зараз трэба нашыя Каляды затанчыць. Каб шчасьця на Новы год усім нам прыдбаць”.

Тут народ на сцэну дружна пайшоў: і стары, і малы! Зноў жа, хто ж шчасьця ў Новым годзе не жадае? Калядоўшчыкі сьпявалі, а астатнія дружна ў карагодзе хадзілі. Праўда, ня ўсе змаглі ў гэтым дзеяньні паўдзельнічаць. Сцэна, хоць і досыць вялікая, але ўсіх не зьмясьціла. Але "Дзед" супакоіў: "Карагод карысны як для тых, хто танчыў, так і для тых хтоназіраў! Так што ўсе шчасьлівыя будзем!"

Ну, вось справа і зробленая! Наперад выйшла “Каляда” і сказала добрыя пажаданьні. Яе слухаюць з асаблівай павагай, бо яна дачка Дажбог-Сонца, і толькі яна можа насіць Зорку - сімвал свайго Бацькі.

"Калядоўшчыкі" прасьпявалі яшчэ адну песьню і пад дружныя воплескі пайшлі далей "па горадзе калядаваць". Дарэчы, хтосьці сьцьвярджаў, што калядоўшчыкі – гэта быццам бы былі пераапранутыя і замаскіраваныя ўдзельнікі ансамбля “Крывічы”! Ня ведаю, ня ведаю. Думаю, памыляюцца… Ужо надта ж непадобныя!

А вось Аляксандру Памідораву зноў давялося на сцэну выйсьці, каб прасьпяваць пару песень і атрымаць традыцыйныя падарункі.

Затым сьвята перамясьцілася ў хол. Спачатку ўсе падыйшлі да сталоў і зладзілі пачастунак-бяседу, з тостамі, віншаваньнямі ад актывістаў ІТБК і ад гасьцей. Перакусілі, адпачылі. І перайшлі да трэцяй часткі нашых Калядаў, да танцаў!

Бяз гэтага нашыя Каляды ўжо таксама не абыходзяцца. Многія адмыслова чакаюць гэтага моманту. Прычым "Маразуля", "Польку задам", "Марыненскі кракавяк" і інш. танчаць з задавальненьнем усе, незалежна ад узросту. Толькі ад імя некаторых бабуль 85-гадовая палачанка Антаніна Васільеўна Тошчава (у дзявоцтве Пракапенка) сказала: “Мы тут ужо пасядзім. Паглядзім”.

Пасля танцаў народ, прытаміўшыся, пагадзіўся, што час, напэўна, і дадому зьбірацца. А што ж наш госьць? Аляксандр Памідораў трапіў у чэпкія рукі нашых гаспадынь-беларусак. Асаблівае шэфства ўзяла над ім Тамара Мікалаеўна Дзятлава, якая родам з Ляхавіч і якая традыцыйна прыносіць да стала ёю самой прыгатаваныя найсмачнейшыя беларускія стравы. І як нашы дзяўчаты ні спрабавалі адарваць Аляксандра і патанчыць зь ім, адказ быў адзін: "Я сьпяваю, але не танцую. Я тут, каля стала... пастаю".

Вось так, весела і заўзята, прайшлі нашыя Каляды!

*Алег Рудакоў, старшыня ІТБК, Іркуцк*

# Дзень Беларускай салідарнасьці ў Маямі



*Напрыканцы мінулага году Галоўная управа БАЗА прыняла ў склад Задзіночаньня новую структуру - Гурток БАЗА ў Паўднёвай Фларыдзе.*

16 студзеня 2013 Гурток БАЗА ў Паўднёвай Фларыдзе правёў акцыю, прысьвечаную Дню Беларускай Салідарнасьці зь сем'ямі зьніклых палітыкаў і рэпрэсаваных па палітычных матывах.

Месцам правядзеньня была абраная пляцоўка насупраць US Department of State, Office of Foreign Missions у Coral Gables. Акцыя была накіравана на прыцягненьне ўвагі грамадзкасьці і супрацоўнікаў вышэйадзначанага органа да праблемы зьнікненьня палітычных апанентаў і парушэньня правоў чалавека ў Беларусі.

Папярэдне мы адправілі інфармацыйны ліст ў US Department of State, Office of Foreign Missions аб актуальнасьці і неабходнасьці дадзенай акцыі.

Наша акцыя доўжылася каля 2 гадзін, і нават непрацяглы дождж ня змог астудзіць нашага запала. Мы распавялі мінакам і відавочцам аб тым, што 16-е чысло кожнага месяца асаблівае для кожнага беларуса, гэта Дзень Беларускай салідарнасьці з рэпрэсаванымі і зьніклымі апанентамі рэжыму Лукашэнкі.

Асноўны акцэнт быў накіраваны на тых людзей, у памяць пра якіх праводзіцца Дзень Беларускай Салідарнасьці: Ю. Захаранка, В. Ганчар, А.Красоўскі, Дз.Завадзкі. Гісторыі жыцьцяў, кар'еры і прычыны іх зьнікненьняў былі ў цэнтры ўвагі. На працягу ўсёй акцыі мы раздавалі інфармацыйныя матэрыялы аб парушэньнях правоў чалавека ў Беларусі.

Сябра гуртка, мастак Дзьмітры Багацішчаў, унёс значны ўклад у арганізацыю і правядзеньне акцыі. Акрамя арганізацыйнай працы ён намаляваў тры красамоўныя палітычныя карыкатуры.

Мінакі і відавочцы ў большасьці сваёй падыходзілі да нас з простай цікаўнасьці - даведацца, да каго адрасаваны наш зварот. Аднак даведаўшыся, наколькі жахлівая ў Беларусі сітуацыя, яны выказвалі нам словы спачуваньня і падтрымкі.

Наша акцыя сталася своеасаблівая па многіх прычынах: падобнага плану мерапрыемства ўпершыню была праведзена ў Паўднёвай Фларыдзе; акцыя была арганізавана нядаўна сфармаваным Гуртком БАЗА і самае галоўнае - беларусы ўпершыню тут голасна заявілі пра сябе і распавялі пра палітычную сытуацыю ў Беларусі. Беларусы ў Дзень салідарнасьці заявілі аб сваім адзінстве.

Выходзячы з асабістага вопыту, з жалем даводзіцца адзначыць, што беларусы - гэта даволі разьяднаная нацыянальная меншасьць у ЗША. Магчыма, гэтая разьяднанасьць зьявілася вынікам гістарычнай спадчыны. Мы занадта доўга жылі ў сістэме камандна-адміністрацыйнага рэжыму і прывыклі разьлічваць выключна на сябе і на свае сілы.

Аднак менавіта жывучы за мяжой, асабліва востра адчуваеш сваю нацыянальную прыналежнасьць, і паступова зьяўляецца цяга да сваіх жа суайчыньнікаў, якія разумеюць цябе як ніхто іншы.

Якраз ў гэтым і ёсьць асноўная задача Гуртка БАЗА ў Паўднёвай Фларыдзе - згуртаваць беларусаў нашага рэгіёна. Узаемадапамога і ўзаемападтрымка - вось ключавыя словы, якія зьяўляюцца лёзунгамі ў дзейнасьці Гуртка. Дадзеная акцыя стала першым крокам у накірунку да абранай намі мэты.

У нашых бліжэйшых плянах - правядзенне інфармацыйнай кампаніі па прыцягненьню новых сяброў пад сцягі Гуртка БАЗА ў Паўднёвай Фларыдзе.

Вялікі дзякуй усім тым, хто прыняў удзел у арганізацыі і правядзеньні акцыі.

*Сяргей Волкаў, старшыня Гуртка БАЗА ў Паўднёвай Фларыдзе*

# Інаўгурацыя прэзыдэнта ЗША Барака Абамы



21 студзеня ў Вашынгтоне адбылася інаўгурацыя прэзыдэнта ЗША Барака Абамы на другі тэрмін.

Сваю другую прэзыдэнцкую прысягу Барак Абама, як і першую, прыняў двойчы. Паводле Канстытуцыі, тэрмін прэзыдэнцтва канчаецца 20 студзеня. Але сёлета гэты дзень прыпаў на нядзелю, калі суды і дзяржаўныя ўстановы былі зачыненыя. Таму першая службовая прысяга ў неафіцыйнай абстаноўцы адбылася 20 студзеня на закрытай цырымоніі ў Белым доме ў прысутнасьці найбліжэйшага атачэньня - сям'і і палітычных паплечнікаў. Варта нагадаць, што ў 2009 г. Барак Абама таксама прыносіў прысягу двойчы. Тады судзьдзя Вярхоўнага суду Джон Робэртс зблытаў словы ў тэксьце прысягі, Абама паўтарыў за ім памылку, і давялося прыносіць прысягу яшчэ раз.

Да Абамы 4 разы прыносіў прэзыдэнцкую прысягу толькі Франклін Дэлана Рузвэльт, якога 4 разы абіралі прэзыдэнтам.

Урачыстая інаўгурацыйная грамадзянская цырымонія зь вялікай колькасьцю прысутных была арганізаваная на наступны дзень у панядзелак. Спачатку Барак Абама зь сям'ёю наведаў набажэнства ў царкве, адкуль накіраваўся да ўрыгожанага сьцягамі Капітолія, дзе і прынёс прысягу, паўтарыўшы тэкст за старшынём Вярхоўнага Суду ЗША.

У сваёй прамове, зьвернутай да грамадзянаў ЗША, Барак Абама акрэсьліў свае погляды на разьвіцьцё краіны, ён адзначыў, што амэрыканцаў зьвязваюць традыцыйныя каштоўнасьці - жыцьцё, свабода і імкненьне да шчасьця. Прэзыдэнт таксама падкрэсьліў, што амэрыканская эканоміка аднаўляецца, а росквіт краіны залежыць, у першую чаргу, ад сярэдняй клясы. У адносінах да зьнешняй палітыкі ён паабяцаў падтрымліваць дэмакратыю ва ўсім сьвеце, імкнучыся дзейнічаць мірным шляхам. Зь ягоных слоў, імкненьні да міру і бясьпекі не патрабуюць "вечнай вайны".

Вось некаторыя вытрымкі з прамовы: "Кожны раз, калі мы зьбіраемся на інаўгурацыю прэзыдэнта, мы становімся сьведкамі дзейнай сілы нашай Канстытуцыі. Мы пацьвярджаем абяцаньне нашай дэмакратыі. Мы нагадваем, што аб'ядноўвае гэтую краіну ня колер нашай скуры або дагматы нашай веры, і не паходжаньне нашых імёнаў. Тое, што робіць нас выключнымі - тое, што робіць нас амэрыканцамі - гэта нашая вернасьць ідэі, сфармуляванай у дэклярацыі больш за два стагодзьдзі таму: "Мы падтрымліваем ісьціну, якая відавочная: усе людзі створаныя роўнымі".

"Сёньня мы працягваем бясконцы шлях, каб злучыць сэнс гэтых словаў з рэаліямі нашага часу. Гісторыя паказала, што, хоць гэтыя ісьціны і відавочныя, яны ніколі самі па сабе не выконваюцца: хоць свабода гэта дар ад Бога, але народ павінен яе зьберагаць тут, на Зямлі".

"Гэта пакаленьне амэрыканцаў перажыло мноства крызісаў, што загартавала нашую рашучасьць і даказала нашую ўстойлівасьць. Дзесяцігодзьдзе вайны сканчаецца. Аднаўленьне эканомікі пачалося. Магчымасьці Амэрыкі бязьмежныя, паколькі мы валодаем усімі якасьцямі, якія патрэбныя ў гэтым сьвеце: маладосьць і энэргія; разнастайнасьць і адкрытасьць; бясконцы патэнцыял для рызыкі і шанец пераасэнсаваньня. Мае амэрыканцы, мы створаныя для гэтага моманту, і мы будзем карыстацца ім — пакуль карыстаемся ім разам".

На інаўгурацыі, якая была 57-й па ліку ў гісторыі ЗША, прысутнічалі 800 тыс. людзей. Сярод іх было шмат турыстаў з усяго сьвету.

Пад час прысягі Абама трымаў руку на дзьвюх Бібліях. Адна з іх, на якой Абама прысягаў 4 гады таму, належала прэзыдэнту Абраму Лінкальну. Сёньня да яе Абама дадаў яшчэ адну - Біблію знакамітага сьвятара, змагара за грамадзянскія правы Марціна Лютэра Кінга, які быў забіты ў 1968 годзе. Менавіта на сёлетні панядзелак прыпадала дата народзінаў Кінга, якая адзначаецца штогод.

Віцэ-прэзыдэнт Джо Байдэн прыносіў прысягу на сямейнай Бібліі, якой 120 гадоў.

Прэзыдэнцкія інаўгурацыйныя цырымоніі ў ЗША прыпадаюць звычайна на зімовы час, і гэта стварае розныя праблемы, бо галоўная дзея адбываецца звонку перад Капітоліем. У Вашынгтоне ў гэты дзень было адносна цёплае надвор'е — плюс 8 градусаў. Самае халоднае надвор'е на інаўгурацыю было ў 1985 годзе, калі Рональд Рэйган прымаў прэзыдэнцкую прысягу другі раз. Тады тэмпэратура ўпала да мінус 14 градусаў, і Рэйган прыносіў прысягу ў Капітоліі.




У 1841 годзе прэзыдэнт ЗША Уільям Гарысан прастудзіўся падчас інаўгурацыйнай прамовы і праз месяц памёр ад хваробы.

У 1961 годзе Інжынэрны корпус арміі ЗША выкарыстоўваў агнямёты, каб ачысьціць сьнег на маршруце інаўгурацыйнага параду Джона Кэнэдзі.

Абама ехаў на інаўгурацыю ў прэзыдэнцкім лімузіне, ягоныя папярэднікі ехалі на конях, у карэтах і аўтамабілях. А трэці прэзыдэнт ЗША Томас Джэфэрсан прыйшоў на сваю інаўгурацыю пешкі.

Адной з самых дзіўных інаўгурацыяў была цырымонія прывядзеньня да прысягі Дуайта Эйзэнхаўэра ў 1953 годзе. Актор Монці Мантана, апрануты каўбоем, пад'ехаў да трыбуны і накінуў ласо на прэзыдэнта. Заарканены Эйзэнхаўэр так і прымаў інаўгурацыйны парад.

Ліндан Джонсан быў адзіны прэзыдэнт, які прыняў прысягу на самалёце. 22 лістапада 1963 году ён быў на борце прэзыдэнцкага самалёта, які зьбіраўся ляцець у Вашынгтон зь целам прэзыдэнта Джона Кэнэдзі, забітага ў Даласе.

Сёлетняя інаўгурацыя не вызначалася нейкімі надзвычайнымі асаблівасьцямі, але сваёй цёплай, дэмакратычнай атмасфэраю і дасканалай арганізацыяй пакінула па сабе добрыя ўспаміны і дала надзею на лепшую будучыню.

# Беларускі дом у Празе адкрыў свой сайт

Кіраўніца рэсурсу Натальля Маковік паведаміла, што галоўная мэта сайту - прыцягнуць беларусаў, якія жывуць у Чэхіі, да беларускіх праектаў. "У краіне жыве 4.129 грамадзян Беларусі. І толькі некалькі дзясяткаў прымаюць удзел у акцыях падтрымкі палітзьняволеных або цікавяцца беларускімі мерапрыемствамі ў галіне культуры. Мы хочам гэтую сытуацыю зьмяніць", - адзначыла Маковік. Яна распавяла, што сайт www.beldom.cz акумулюе зьвесткі пра ўсё, што адбываецца ў Чэхіі, на беларускую тэму. "Тут можна даведацца пра беларускамоўныя літургіі ў Празе, запісаць сваіх дзяцей у беларускую нядзельную школу, раздрукаваць запрашэньні на выставу „Невядомая БНР", убачыць расклад спартыўных мерапрыемстваў у Чэхіі з удзелам беларускіх спартоўцаў", - сказала Маковік.

"Акрамя гэтага, - падкрэсьліла сп. Маковік, праект прапануе дапамогу беларусам: прадпрымальнікі могуць атрымаць бясплатную кансультацыю пры рэгістрацыі фірмы, таленавітыя фатографы - выйграць адпачынак на курорце, а блогеры - зарабляць грошы за лепшыя артыкулы пра жыцьцё беларусаў у Чэхіі.

А доўгатэрміновая задача такая: з 4.129 грамадзян Беларусі, якія жывуць у Чэхіі, толькі 2.013 назвалі сябе беларусамі, а 826 заявілі, што іх родная мова - беларуская. Мы дамажамся, каб усе 4000 чэскіх беларусаў ганарыліся тым, што яны беларусы, і лічылі роднай мовай беларускую".

*15.01.2013*

# Новы прэзыдэнт Чэхіі — Мілаш Зэман



У Чэхіі на прэзыдэнцкіх выбарах 26 студзеня перамог былы прэм'ер-міністар, сацыял-дэмакрат Мілаш Зэман. Ён набраў 55% галасоў. выбарцаў.

Супернік Зэмана — віцэ-прэм'ер і кіраўнік МЗС, кансэрватар Карл Шварцэнбэрг набраў 45 адсоткаў.

Наўпростыя прэзыдэнцкія выбары ў Чэхіі праводзіліся ўпершыню. Раней кіраўніка дзяржавы, які мае ў асноўным прадстаўнічыя функцыі, выбіраў парлямэнт.

Спадзяемся, што традыцыйная палітыка падтрымкі беларускага дэмакратычнага руху ня зьменіцца пры новым прэзыдэнце.

*Ганна Сурмач*

# Найвялікшы запавет Каліноўскага



*150 гадоў таму, 23 студзеня 1863 году, на землях Беларусі, Літвы і Польшчы пачалося паўстаньне пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага. Юбілей адзначылі ў Польшчы і Літве, а сучасныя беларускія ўлады ніяк ня ўславілі вялікага сына нашай зямлі. Вакол ягонага імя сёньня распальваюцца дыскусіі пра тое, што Каліноўскі паляк, што ягоная асоба ня ёсьць значнаю для Беларусі. Каліноўскі і сучаснасьць, сёньняшні погляд на подзьвіг Каліноўскага – на гэтыя тэмы правяла дыскусію Беларуская рэдакцыя Радыё Свабода. 23 студзеня ў эфір выйшаў выпуск «Свабоды бяз гальштукаў», прысьвечаны асобе і дзейнасьці Кастуся Каліноўскага, які падаем тут у скароце і які, на нашу думку, найбольш поўна асьвятляе значнасьць асобы Каліноўскага.*

*Вячаслаў Ракіцкі*



**Вячаслаў Ракіцкі:** Кастуся Каліноўскага як найвялікшага нацыянальнага героя шанавалі і ўлады, і эліты пад час камуністычнага рэжыму. Аднак апошнім часам у Беларусі зьявілася тэндэнцыя да замоўчваньня ролі Кастуся Каліноўскага і нават дэгераізацыі ягонай асобы. Больш за тое, узьнікла спроба рэвізіі гэтага паўстаньня, здавалася б, ужо вывучанага.

Сёньня ўжо ёсьць людзі, якія хочуць выставіць Каліноўскага ня проста як кіраўніка ўласна беларускага паўстаньня, героя, а як кіраўніка польскага паўстаньня і, больш за тое, як тэрарыста, які нават ненавідзеў беларускі народ. Дык чым Каліноўскі, нацыянальны герой, не дагадзіў сучаснаму беларускаму рэжыму? І ці ёсьць Каліноўскі нашым - і паводле паходжаньня, і паводле вынікаў ягонай дзейнасьці, і паводле нашай патрэбы ў гэтым героі?

Пра Каліноўскага і нас, сучасных беларусаў, мы і пагаворым сёньня ў новай перадачы “Свабода бяз гальштукаў” з журналістам і гісторыкам Сяргеем Абламейкам, а таксама палітолягам Уладзімерам Падголам.

- Сяргей, пытаньне Вам: Каліноўскі наш ці ня наш, і прынцыпова - чаму?

- Безумоўна наш, Вячаслаў. Кастусь Каліноўскі - стваральнік беларускай нацыянальнай ідэі, пачынальнік яе, гэта наш першы герой. Ён стварыў беларускую журналістыку, беларускую выдавецкую справу. Ён фактычна стварыў нацыянальную мову. Ён - паэт. У яго вельмі шмат якасьцяў, якія выносяць яго ў першыя шэрагі беларускага пантэону. Я б сказаў, што Скарына і Каліноўскі - дзьве галоўныя постаці гэтага пантэону, больш ніхто побач зь імі не стаіць.

**Уладзімер Падгол:** Я лічу, што Каліноўскі патэнцыйна наш. Для беларускіх нацыянальных элітаў ён наш.

**Вячаслаў Ракіцкі:** На сайце нашага Радыё цяпер праводзіцца апытаньне: “Чаму ўлады не сьвяткуюць урачыста 150-я ўгодкі паўстаньня Каліноўскага?” Каля 75 працэнтаў нашай аўдыторыі лічаць прычынай тое, што гэта паўстаньне было супраць расейскай улады, каля 20 працэнтаў адказалі, што прычына — увогуле прынцыповае адмаўленьне ўладаю любых паўстаньняў.

**Уладзімер Падгол:** - Асабіста я бачу тут некалькі прычынаў. Папершае, калі раптам Лукашэнка на ўсю Беларусь адсьвяткуе гэтае сьвята, “Лісты з-пад шыбеніцы” Каліноўскага (а яны вывучаюцца нават у школе) прагучаць ува ўсіх дзяржаўных сродках масавай інфармацыі, - а там абсалютна антымаскоўскі тэкст: “Бяры сякеру і сячы гэтых маскалёў” І ўсё - танных нафты і газу больш ня будзе.

Па-другое, на 2015 год прызначана зьнішчэньне палітычнай незалежнасьці Беларусі - утварэньне Эўразійскага саюзу. У ім наднацыянальны парлямэнт з законамі наўпроставага дзеяньня. Сёньня мы маем страчаную эканамічную незалежнасьць (за кошт Эўразійскага мытнага хаўрусу), а 2015 год - канец нашай палітычнай незалежнасьці. Калі адсьвяткаваць гэтую падзею на дзяржаўным узроўні, тады ў 2015 годзе могуць паўстаць дзясяткі Каліноўскіх, і яны могуць сарваць пляны інтэгратараў.

**Вячаслаў Ракіцкі:** - З гэтага адказу натуральна паўстае яшчэ адно пытаньне. У сёньняшняй рэвізіі паўстаньня Каліноўскага мы можам прачытаць, што Мураўёў (вешальнік, кат, які крывава задушыў гэтае паўстаньне) ужо ледзь не герой. Між іншым, у Зьмітрака Бядулі ў адным зь віленскіх вершаў ёсьць вельмі трапная характарыстыка Мураўёву: «фабрыкант вяровачных гальштукаў».

- Сяргей, хто яны - сучасныя фабрыканты найноўшых поглядаў на антырасейскае паўстаньне Каліноўскага? Чаму яны так робяць? Яны выконваюць замову ўлады ці тут нейкія іншыя матывы? Чаму Каліноўскага зрабілі палякам? Ці ёсьць для гэтага падставы?

**Сяргей Абламейка:** - Гэта «новыя старыя» людзі, і яны зноў пакліканыя да жыцьця той геапалітычнай сытуацыяй, у якой знаходзіцца Беларусь цяпер.

*Сяргей Абламейка*



Найперш супраць Каліноўскага выступаюць заходнярусы: гэта тыя, хто выступае за кантроль Расеі над Беларусьсю, прыхільнікі трыадзінага рускага народу, які складаецца зь беларусаў, украінцаў і ўласна расейцаў. Гістарычна закіды Каліноўскаму сёньня выстаўляюцца двух тыпаў: адны кажуць, што гэта быў паляк (толькі паляк) і кіраўнік польскага паўстаньня, другія кажуць, што гэта савецкі камуністычны міт, які быў створаны камуністамі.

На гэта можна адказаць так: паўстаньне 1863 году вельмі добра вывучана як польскімі, так і савецкімі навукоўцамі. Выйшлі дзясяткі манаграфіяў, прысьвечаных гэтаму паўстаньню. Калі б мы хацелі сёньня падаць беларускі пункт гледжаньня, ня трэба нават вывучаць нічога і корпацца ў архівах: усё апублікавана і вывучана, толькі трэба даць беларускую трактоўку гэтаму паўстаньню, толькі выбраць тое, што адносіцца да нас і нашай тэрыторыі.

Зразумела, што Каліноўскі быў не незалежнік: ён бачыў будучыню Беларусі ў аўтаноміі з Польшчай, - дык так і ў Радзе БНР былі аўтаналмісты, якія бачылі будучыню Беларусі ў складзе Расеі. Але зь яго ліцьвінскага сэпаратызму і беларускай (ліцьвінскай) публіцыстыкі вырасла наша нацыянальная ідэя і як бы наноў гістарычна нарадзіўся наш народ.

**Вячаслаў Ракіцкі:** - А зараз, Сяргей, пра другі аргумэнт у дэгераізацыі Каліноўскага як нацыянальнага героя. На гэта, дарэчы, зьвярнуў увагу адзін з чытачоў нашага сайту, які напісаў: “Як патлумачыць наяўнасьць у Менску з савецкіх часоў вуліцы імя Кастуся Каліноўскага?” (А вуліцы Каліноўскага ёсьць шмат у якіх гарадах Беларусі.) Ці не “саветы”, камуністы міталягізавалі Каліноўскага як героя ў нейкіх сваіх мэтах?

**Сяргей Абламейка:** - Зразумела, менавіта ў сваіх пэўных мэтах яны не міталягізавалі яго, але выкарысталі. Мы павінны добра ўсьведамляць сабе, што калі ў дваццатыя гады ствараліся савецкія камуністычныя вэрсіі гісторыі, дык ім патрэбныя былі такія людзі, як Каліноўскі. Бальшавікам былі патрэбныя слаўныя папярэднікі. Так яны выкарысталі “дзекабрыстаў”. Так выкарысталі і паўстанцаў.

Камуністы абвясьцілі паўстанцаў амаль сацыялістамі, але адначасова цалкам схавалі нацыянальную сутнасьць, нацыянальны бок дзейнасьці Каліноўскага. “Лісты з-пад шыбеніцы” і “Мужыцкая праўда” пры камуністах, за савецкім часам, былі схаваныя ад грамадства.

Такім чынам, яны зрабілі з Каліноўскага ледзь не сацыяліста і барацьбіта за народнае шчасьце, але цалкам схавалі нацыянальны і антырасейскі аспэкт яго дзейнасьці.

**Вячаслаў Ракіцкі:** - Нашы рэгіянальныя карэспандэнты правялі ў розных гарадох Беларусі апытаньне людзей (што цікава, менавіта на вуліцах імя Каліноўскага), што яны ведаюць пра Каліноўскага, хто ён такі. І трэба сказаць, што людзі маюць вельмі цьмянае ўяўленьне пра гэтага героя. Чаму гераічнае імя Каліноўскага не ўвайшло шырока ва ўсьведамленьне сучасных беларусаў?

**Уладзімер Падгол:** - Каліноўскі пайшоў з жыцьця, не пісаў прашэньняў аб памілаваньні цару. У сваім “Лісьце з-пад шыбеніцы” ён кажа і пра Бога: для яго жыцьцё на гэтым сьвеце ня скончылася, яно -

*Працяг на 7-й бачыне*

# Найвялікшы запавет Каліноўскага

*Заканчэньне з 6-й бачыны*

вечнае, ён жывы ў Богу. Вось гэты ўчынак - ён вельмі страшны для ўладатрымцаў, бо, крый Божа, зьявяцца сотні такіх Каліноўскіх, якія, ахвяруючы сваім жыцьцём, будуць змагацца за нацыянальную дэмакратычную дзяржаву.

**Вячаслаў Ракіцкі:** А цяпер давайце пагаворым пра тое, якія ўрокі мы маглі б узяць ад Каліноўскага. Уладзімер, што са спадчыны Каліноўскага трэба было б узяць і сучасным беларускім асьветнікам, і, так бы мовіць, рэвалюцыянэрам (апазыцыйным палітыкам)?

*Уладзімер Падгол*



**Уладзімер Падгол:** Так здарылася, што гэта 150-годзьдзе паўстаньня і маральны подзьвіг Каліноўскага замкнуў - як быццам і не было гэтых 150 год - трапіў у 2013 год, паміж прэзыдэнцкімі выбарамі 2010 і 2015 гадоў. І вось ён, Каліноўскі, тут, побач, цяпер. Гэта вельмі цікавая псыхалягічная часавая сытуацыя. Ягоны ўчынак дазваляе цяпер - як узор, як матрыца - прапусьціць усіх былых экс-кандыдатаў у прэзыдэнты ад апазыцыі праз гэты ўчынак, а таксама стаць той плятформай, той матрыцай, тым фільтрам, праз які нам трэба прафільтраваць галавой будучых кандыдатаў у прэзыдэнты на 2015 год. Бо калі нават усе адмовяцца ад выбараў, узор Каліноўскага мусіць быць узорам для дзеяў апазыцыйных лідэраў.

Вось так нечакана ўчынак, якому 150 год, проста па часе трапіў у нашу сытуацыю, і - хочуць гэтага нашы палітычныя актывісты, лідэры грамадзянскай думкі ці не — на іх гэтая матрыца Каліноўскага ўжо накладваецца (сьвядома, непадсьвядома).

**Вячаслаў Ракіцкі:** Сяргей, чым асоба Каліноўскага можа быць важнай для наступных пакаленьняў, для беларускай будучыні?

**Сяргей Абламейка:** Я лічу, што Каліноўскі ў "Лістах з-пад шыбеніцы" пакінуў найважнейшы палітычны запавет наступным пакаленьням, які і сёньня, праз 150 год, усё яшчэ актуальны:

"З-пад шыбеніцы маскоўскай прыходзіць мне да вас пісаці, і можа, раз астатні. Горка пакінуць зямельку родную і цябе, дарагі мой народзе. Грудзі застогнуць, забаліць сэрца, але ня жаль згінуць за тваю праўду. (...) Бо я табе з-пад шыбеніцы кажу, Народзе, што тагды толькі зажывеш шчасьліва, калі над табою Маскаля ўжо ня будзе".

І сёньня Расея ўсё яшчэ кантралюе Беларусь, і сёньня яшчэ беларусы маюць гэтую праблему: краіна стаіць перад пагрозай русіфікацыі і ўступленьня ў склад Расеі... І гэты запавет застаецца актуальным. Гэта, яшчэ раз кажу, — найвялікшы палітычны запавет Каліноўскага ўсім наступным пакаленьням.

**Вячаслаў Ракіцкі:** - Уладзімер, ці маглі б і вы працытаваць вашу самую любімую думку Каліноўскага, вашу самую ўлюбёную цытату. Які мэсыдж ад Каліноўскага вы паслалі б у будучыню?

**Уладзімер Падгол:** Я б хацеў сказаць, што ня словы галоўнае ў Каліноўскага. Галоўнае - учынак Каліноўскага. Гэта ахвяра сваім жыцьцём. Каліноўскі па сутнасьці стаў беларускім Сакратам. Сакрата незаконна асудзілі і прымусілі яго зрабіць выбар: альбо ён выпівае чашу цыкуты і памірае (і ён гэта зрабіў), ці, як сказалі яго вучні, "бяжы!". Ён сьвядома пайшоў на сьмерць, і пасьля сьмерці Сакрата адбыўся пераварот і скінулі тыранаў у Старажытнай Грэцыі, дзе жыў Сакрат. Каліноўскі зрабіў тое ж самае, але на той час ягоны ўчынак яшчэ ня мог мець такога рэзанансу, які рэзананс можа быць сёньня.

Для мяне галоўнае сёньня і ў 2015 годзе - гэта дзея, якую ён зьдзейсьніў. Ахвяраваньне сваім жыцьцём, а не прашэньне аб памілаваньні. Вось гэта — галоўнае, што ён даў нам.

# Угодкі паўстаньня Каліноўскага у беларускім замежжы



Угодкі паўстаньня Каліноўскага насуперак беларускім уладам былі адзначаны ў шмат якіх рэгіёнах Беларусі і ў беларускіх асяродках у замежжы. 27 студзеня такая імпрэза адбылася ў Нью-Ёрку, ладзіў яе Бруклінскі аддзел БАЗА.

26 студзўеня ў Іркуцку адбыўся Круглы стол (на здымку справа) па тэме "Паўстаньне 1863 году: факты і каментары". Прысутнічала больш 30 чалавек. Былі два тэлеканалы, журналісты газэт, чыноўнікі, навукоўцы, палякі, украінец, руская, але больш было беларусаў. Прагучалі даклады, была дыскусія, пасьля – спрэчка, якая атрымалася вострай і цікавай, часта погляды



былі супрацьлеглыя.

# Дзе мы ёсьць?

Гэтыя словы вырваліся ў мяне, як крык абурэньня пасьля прачытаньня першай часткі "Маскоўскага дзёньніка" Сяргея Навумчыка, які ён пачаў выстаўляць на сайце Беларускай рэдакцыі Радыё Свабода 16 студзеня. Сяргей распавядае пра сваю паездку ў расейскую сталіцу ў сьнежні мінулага году, дзе ня быў сямнаццаць гадоў. Мэта ягонай службовай камандзіроўкі ад Радыё Свабода – падрыхтоўка матэрыялаў для адзначэньня 10-й гадавіны з дня сьмерці Васіля Быкава, збор інфармацыі пра ягоныя маскоўскія кантакты.

Перад вылетам з Прагі Сяргей меў засьцярогі, ці ня спыняць яго на расейскай мяжы, ці дазволяць яму, вядомаму беларускаму апазыцыянеру, уезд у Расею? Такіх перашкодаў не сустрэў. Аднак зь вялікім зьдзіўленьнем натыкнуўся на нешта іншае, што і выклікала пытаньне, якое вынесена ў загаловак. Вось як апісвае гэта сам Сяргей: "... у сярэдзіне сьнежня я ўзышоў на борт аэробуса расейскай кампаніі «Аэрофлот»... На падлёце да Масквы стуардэсы прапанавалі замежнікам так званую міграцыйную карту. Рутынная рэч — такія бланкі для замежнікаў (нават для тых, каму віза не патрэбная) прадугледжаныя шмат у якіх краінах. У Чэхіі, Францыі ці Італіі іх няма, а вось у Вялікай Брытаніі ці ЗША яны ёсьць». Вось як выглядае гэтая карта, якую прапануюць сёньня запоўніць усім, хто ўязджае ў Расейскую Федэрацыю:

На гэтым блянку выразна абазначана, што вы



"А" (Въезд/Arrival)

Российская Федерация Federation

Республика Беларусь Russian Republic of Belarus

| | | |
|---|---|---|
| Миграционная карта Migration Card | Серия/ Serial | |
| | № | |
| Фамилия/Surname (Family name) | | |
| Имя/Given name(s) | | |
| Отчество/Patronymic | | |
| Дата рождения/Date of birth: День/ Месяц/ Год/ | Пол/Sex: Муж/Male Жен/Female | |

ўязджаеце ў Расею і Беларусь. Што можа падумаць замежнік? Што гэта ёсьць адна, фэдэратыўная ці якая, краіна.

З якога часу гэта сталася? Хто санкцыянаваў гэтыя карткі на дзяржаўным узроўні?

Адно можна з упэўненасьцю сказаць, што гэта ёсьць тая самая паўзучая інтэграцыя, праз якую Расея крок за крокам паглынае Беларусь, пазбаўляе нас дзяржаўнай незалежнасьці.

Але яшчэ больш у гэтай справе зьдзіўляе тое, што ніводзін з нашых беларусаў, што цугам праз Маскву едуць адведаць Бацькаўшчыну, акрамя Сяргея Навумчыка, не зьвярнуў на гэта ўвагу, не абурыўся, нават не паведаміў пра гэта сябрам і знаёмым. Ніякай рэакцыі не чуваць і ад нашай апазыцыі, якая, здаецца, першай павінна была б выкрываць такія факты і арганізоўваць пратэсты супроць гэтага небясьпечнага самавольства сучасных калябарацыянісцкіх уладаў Беларусі.

*Ганна Сурмач*

# За ідэю і праўду трэба стаяць

### *Новыя выданьні Зянона Пазьняка па гісторыі і мастацтву*

Некалькі гадоў запар у Варшаве, у Беларусі і ў Нью-Ёрку праводзяцца традыцыйныя прэзэнтацыі навінак кніжнага выданьня "Беларускія Ведамасьці", у якім Зянон Пазьняк кожны год выдае па некалькі кніг, не перастаючы зьдзіўляць беларусаў аб'ёмам сваёй працы. 23 сьнежня 2012 г. ён прадставіў беларускай грамадзе ў Нью-Ёрку новыя кнігі, якія выдаў у 2012 годзе.

Гэтым разам на суд беларускага чытача былі прадстаўлены тры выданьні: па гісторыі Курапатаў - "Абарона Курапатаў. Народны Мэмарыял", па мастацтвазнаўству - "Добрая фатаграфія" (прэзэнтацыя якіх ужо адбылася ў Варшаве ў лістападзе 2012 г.), па гісторыі БНФ - брашура "Менскі Гарсавет у пэрыяд нацыянальнай рэвалюцыі", якую напісала Галіна Пазьняк.

Гаворка пачалася з кнігі пра Курапаты. У яе два аўтары: Зянон Пазьняк і Валеры Буйвал. З.Пазьняк закрануў праблему раскрыцьця сталінскіх злачынстваў, пра якія ўпершыню было ўсенародна сказана ў 1956 г. на ХХ зьезьдзе КПСС у дакладзе М. Хрушчова (з чаго і пачалася так званая "адліга"). Крытыка культу асобы Сталіна, які праводзіў рэпрэсіі "савецкага народа", аднак, не перарасла тады ў суд над камунізмам (падкрэсьліў аўтар), і ўся ўвага была сканцэнтравана на кульце асобы Сталіна. У 1980 гадах, з пачаткам гарбачоўскай "перабудовы" зноў паднялося пытаньне аб кульце Сталіна і аб рэпрэсіях. Беларусы памятаюць той час, калі артыкул "Курапаты – дарога сьмерці" (які быў падпісаны З. Пазьняком і Я. Шмыгалёвым, зь якім аўтар разам рабіў апытаньні сьведкаў) выйшаў з друку і імгненна стаў інфармацыйнай бомбай ня толькі на ўсю Беларусь, але і на ўвесь Савецкі Саюз, рэха яго адгукнулася ў прыдушанай, але змагарнай Польшчы і ва ўсёй Эўропе.

У Курапатах былі выкрытыя трупы людзей, якіх там забівалі, былі знодзены кулі ад савецкіх наганаў, гільзы, рэчы расстраляных. І што там былі за ахвяры? У асноўным (на 90 %) – бедныя сяляне. У Курапатах было забіта і пахавана каля чвэрці мільёна людзей.

Узгадаўшы пра лукашэнкавы "эскадроны сьмерці", можна не сумнявацца, што гэтая злавесная камуністычная арганізацыя - КГБ, не зьмянілася ў сваёй сутнасьці.

"Дык вось Курапаты, - працягваў Зянон Пазьняк, - далі такія факты, што цяпер можна ставіць пытаньне аб судзе над камунізмам так, як судзілі нацысцкіх злачынцаў у Нямеччыне. Суд гісторыі павінен адбыцца абавязкова. Ад веданьня пра злачынствы ў Курапатах пачалося нашае новае нацыянальнае Адраджэньне ў палітычнай форме змаганьня. Гэта была ўспышка, якая шмат вырашыла. Утварыўся Беларускі Народны Фронт, СССР распаўся – ніякай вайны не было. Ён разваліўся, практычна, безь вялікай крыві. Пры ўладзе засталася бальшыня камуністычнай намэнклятуры (а ў Беларусі – цалкам). Мы ведалі пра злачынствы, але не было сілы, якая б гэты "Нюрнбэргскі" працэс ажыцьцявіла. Факты для такога працэса ўжо ёсьць".

Тое, што паведаміў Зянон Пазьняк пра сутнасьць Курапатаў, тлумачыць, чаму лубянскія нашчадкі Дзяржынскага пастаянна будуць старацца зьнішчыць факты злачынстваў, перакруціць іх, сфальсіфікаваць, хлусіць, каб на іх забыліся. Яны гэта будуць рабіць пастаянна, пакуль існуе несвабодная праімпэрская Расея і яе злачынная служба бясьпекі.

* * *

Наступная кніга, якую прадставіў для сваіх чытачоў Зянон Пазьняк, - "Добрая фатаграфія". Яна мастацтвазнаўчага кшталту і раскрывае сутнасьць фатаграфіі як мастацтва. У гэтым пляне Зянон Пазьняк і тут зьяўляецца першапраходцам, бо такой кніжкі - аб мастацтве фатаграфіі - яшчэ не было, яна ў пэўным сэнсе першая ў Беларусі.

Кніга складаецца з шэрагу мастацтвазнаўчых эсэ, напісаных пра сусьветную фатаграфію, але выбар адвольны, суб'ектыўны, тое, што аўтар палічыў патрэбным даць у гэтую кнігу, што яго зацікавіла і чым ён хацеў падзяліцца з чытачамі.

У кнізе прадстаўлены і сусьветна вядомыя фатографы, і аматары. Часам аўтар не зважае на невысокую тэхнічную якасьць фатаграфіі, калі яна адлюстроўвае вялікую эмацыйную сілу. У сваіх эсэ аўтар тлумачыць, чаму гэта так адбываецца.

"У Беларусі шмат добрых фатографаў, цікавая гісторыя фатаграфіі, пачынаючы ад Яна Булгака, Адамовіча, яшчэ з XIX стагодзьдзя. Тым ня менш, на вялікі жаль, у Беларусі да сёньняшняга дня не было ні аднаго фатаграфічнага часопіса – такі парадокс, – зазначыў аўтар. – Я цікавіўся гісторыяй фатаграфіі, цікавіўся Булгакам і сядзеў у архівах у Вільні, праглядзеў усе часопісы (якія было магчыма) і быў вельмі зьдзіўлены тым, што ў перадваеннай Польшчы (з 1920 па 1939 год) я налічыў 15 часопісаў па фатаграфіі. Я знайшоў цэлую віленскую школу, і ня толькі пад уплывам Булгака. Вельмі шмат найцікавейшых фатаграфіяў. У нас жа (у БССР) не было ні творчага саюзу фатографаў, ні часопіса, і гэтыя ўсе дасягненьні беларускай фатаграфіі ніяк не абагульненыя, не зафіксаваныя, не прааналізаваныя. Таму задача перад мастацтвазнаўцамі-беларусамі стаіць вялікая – усё гэта некалі падняць".

З. Пазьняк сьцьвярджае, што мастацкае ўзьдзеяньне і эстэтычная моц фатаграфіі вырастаюць разам з часам.

Прынцып кнігі такі: эсэ і адна-дзьве-тры фатаграфіі, якія ілюструюць пэўную ідэю. Як зазначыў аўтар, кніга аказалася вельмі працаёмкай, прыйшлося шукаць, рабіць шмат рэпрадукцый, але кніжка ёсьць і яна аддадзена на суд чытачу.

Трэцяе выданьне, якое прэзэнтаваў Зянон Пазьняк, гэта невялічкая брашура "Менскі Гарсавет у пэрыяд нацыянальнай рэвалюцыі. 1990-1991 гг.", напісаная дэпутатам Менгарсавета XXI скліканьня ад Беларускага Народнага Фронту Галінай Пазьняк.

Менскі гарсавет – дастаткова важная адміністрацыйная адзінка ў Беларусі, і там было дастаткова дэмакратычных людзей, франтаўцоў, і шмат падзей было зьвязана з гэтай барацьбой за незалежнасьць Беларусі, барацьбой з камунізмам. Было прынята шмат адпаведных пастаноў, якія нараджаліся ў выніку барацьбы. Таму гэтая гісторыя не павінна зьнікнуць, мусіць быць адлюстравана.

"Добра, што гэтая брашура напісаная, і я лічу, – зазначыў Зянон Пазьняк, – яна надзвычай важная для нашай культуры. Хаця б тое, што Менскі гарсавет з ініцыятывы дэпутатаў БНФ яшчэ 5 верасьня 1991 г. першы прыняў рашэньне аб беларускім Бел-Чырвона-Белым Сьцягу над Гарсаветам. Дзяржаўны сьцяг быў прыняты 19 верасьня, а 5 верасьня Менскі Гарсавет ужо прыняў сваё рашэньне, што разам з існуючым сьцягам БССР над будынкам Гарсавета ўсталёўваецца нацыянальны Бел-Чырвона-Белы Сьцяг. І гэта адзіны мясцовы Савет, які прыняў такое рашэньне, што сталася вынікам велізарнай барацьбы франтаўцаў з камуністычнай намэнклятурай. Наколькі гэта важна было для людзей, якія выходзяць на плошчу – убачыць, што там лунае нацыянальны Сьцяг".

У тым жа 91-м годзе Менгарсаветам было прынята рашэньне аб Магдэбурскім гэрбе, які вярнуўся ў Менск, таксама было прынята рашэньне (яно дзейнічае і па сёньняшні дзень) аб дэмантажу помніка Леніну і аб стварэньні архітэктурнай кампазыцыі, якая адпавядае нашай гісторыі часу. Гэта зрабіў Менскі гарсавет пад уплывам дэпутатаў Народнага Фронту, і гэта гісторыя змаганьня, якую трэба ведаць і шанаваць.

Пасьля прадстаўленьня кніг пачалася гаворка і адказы на пытаньні пра сучаснае становішча ў Беларусі, аб стварэньні Вызвольнага Руху.

"Трэба рабіць тое, што рабіў і робіць Фронт, – падсумаваў Зянон Пазьняк. – Найперш трэба дапамагаць грамадзтву ў нацыянальнай асьвеце. Ад беларусаў адабралі і школу, і гісторыю, і інфармацыю. І што ж, яны вырастуць такія ж цёмныя, як Лукашэнка? Гэтага ня можна дапусьціць. Таму задача інтэлігенцыі, партыі, грамадзкіх рухаў – асьвячаць свой народ, дапамагчы яму ў нацыянальнай асьвеце, казаць, што такое ёсьць нашая мова, што ёсьць дэмакратыя, што такое культура, чаму гэта патрэбна, чаму ня трэба баяцца.

Палітычныя партыі павінны ўзяць на сябе такую асьветніцкую нагрузку, бо гэта ёсьць ужо палітыка. І пакуль мы гэтага ня зробім, нічога станоўчага ня будзе.

Трэба рыхтаваць сваё нацыянальнае асяродзьдзе. Так рабілася паўсюдна ў Эўропе, Вясна народаў пачыналася з гэтага. Усё ў нашых руках. За работу! І калі нехта думае, што вынік будзе адразу – памыляецца. Ня будзе выніку, пакуль ня будзе пералому ў грамадзтве".

У заключэньне імпрэзы айцец Леанід падзякаваў Зянону Пазьняку за ягоную вялікую працу ў палітычнай і навукова-асьветніцкай сфэрах беларускага жыцьця. Як адзін з удзельнікаў барацьбы за Курапаты, айцец Леанід асьвячаў курапацкія крыжы. У сваім слове сьвятар падкрэсьліў, што Народны Мэмарыял Курапаты – гэта мэмарыял усяго насельніцтва Беларусі. "Курапаты – агульнае найменьне ўсё новых і новых знаходак пахаваньняў вакол кожнага абласнога і раённага цэнтра Усходняй і Цэнтральнай Беларусі. Амаль пад кожным райцэнтрам былі такія катоўні, дзе праводзілі маскалі-бальшавікі генацыд нашай нацыі".

На заканчэньне айцец Леанід прачытаў малітву, якую так і назваў – малітва Курапацкая.

*Марыля Якушэвіч*

# З дзейнасьці Вашынгтонскага гуртка БАЗА

Апошнім часам Вашынгтонскі гуртоk БАЗА ладзіў шэраг цікавых мерапрыемстваў, якія мелі рэзананс у беларускім жыцьці амэрыканскай сталіцы.

12 сьнежня сябра гуртка, а таксама старшыня Фундацыі "Мы Памятаем" Ірына Красоўская арганізавала прыняцьцё з нагоды візыту ў Вашынгтон беларускіх жанчын-праваабаронцаў Жаны Ліцвіной, Натальлі Пінчук і Таццяны Равякі.

19 сьнежня сябры гуртка правялі пікетаваньне беларускай амбасады ў Вашынгтоне. Больш за 20 удзельнікаў акцыі запатрабавалі ад беларускіх уладаў вызваліць усіх палітвязьняў. Напярэдадні пікету старшыня гуртка Алеся Кіпель даслала афіцыйны ліст у беларускую амбасаду з аналагічнымі патрабаваньнямі, але, як звычайна, аніякага водгуку не было.

Адна з мэтаў нашай акцыі палягала ў тым, каб нагадаць супрацоўнікам беларускай амбасады і грамадзкасьці амерыканскай сталіцы аб падзеях 19 снежня 2010 года. Прайшло два гады, але шэсьць чалавек па-ранейшаму застаюцца ў турмах і працоўных калёніях у сувязі з гэтымі падзеямі, іншыя ўсё яшчэ адбываюць ўмоўнае пакараньне і жывуць пад пастаянным наглядам, а таксама абмежаваныя ў свабодзе перамяшчэньня, некаторыя знаходзяцца ў вымушаным выгнаньні", - заявіў Вячаслаў Бортнік, адзін з арганізатараў пікету. У пікеце таксама ўзялі ўдзел актывісты партнёрскіх арганізацый: Freedom House, уключаючы прэзыдэнта арганізацыі Дэвіда Крамера, Аб'яднанага Балтыйска-Амэрыканскага Нацыянальнага Камітэта (JBANC), Фундацыі "Мы Памятаем", Міжнароднай Амністыі ды Fair Vote for Russia. Акцыя асьвятлялася беларускімі незалежнымі СМІ.

У 2012 годзе да Вашынгтонскага гуртка БАЗА далучыліся новыя сябры, у тым ліку Ліля Смелкава ды іншыя актывісты. Быў наладжаны кантакт з новай спэцыялісткай па Беларусі у Міжнароднай Амністыі ЗША. Напрыканцы сьнежня сябры гуртка даслалі калядныя паштоўкі ўсім палітычным вязьням ў Беларусі, а таксама больш за 30 амэрыканскіх палітыкаў і грамадскіх дзеячоў, якія дапамагаюць нам ў беларускіх справах.

У студзені сябры гуртка наведалі офісы каля 20 кангрэсмэнаў і сэнатараў з Нью-Йорку, Нью-Джэрзы, Ілінойса і Каліфорніі і запрасілі іх на спэктаклі Беларускага "Свабоднага Тэатра" падчас гастроляў у ЗША.

*Прэсавая служба Вашынгтонскага гуртка БАЗА*

# Навіны з Вільні

Увечары 29 снежня сябры Таварыства беларускай культуры ў Літве сабраліся, каб правесьці апошнюю імпрэзу ў адыходзячым 2012 годзе.

Першым выступіў актыўны сябра Таварыства, рэдактар беларускай праграмы на літоўскім радыё Андрусь Старавойтаў, які распавёў пра святога Яўстафія, аднаго з трох віленскіх пакутнікаў, парэшткі якіх знаходзяцца ў Свята-духавым праваслаўным манастыры Вільні. Афіцыйная гісторыя сьцьвярджае, што святы Яўстафій быў закатаваны пры літоўскім князі Альгердзе за праваслаўную веру. Пасьля пакутніцкай сьмерці ён быў залічаны да ліку сьвятых, і яго парэшткі сталі нятленнымі. З таго часу яны захоўваліся збольшага ў Вільні, непрацяглы час у Маскве. Варта дадаць, што парэшткі трох віленскіх пакутнікаў былі разьдзелены, і частка іх захоўвалася ў Візантыі.

У сьнежні споўнілася 70 гадоў ад часу пакутніцкай сьмерці аднаго з найбольш слаўных сыноў беларускай зямлі ксяндза Вінцэнта Гадлеўскага. Яго служэньне было прыкладам самаахвярнай аддадасьці Бацькаўшчыне і сьведчаньнем яго ўсеабдымнай і неабсяжнай любові да Беларусі. На жаль, сёння не хапае сьвятароў такога кшталту. Ён ня толькі прапаведаваў Слова Божае на беларускай мове, але дапамагаў беларусам усьведамляць сябе беларусамі ў Заходняй Беларусі. Вядома, яго дзейнасць не падабалася польскім уладам, за што ён неаднаразова перасьледваўся і быў асуджаны польскімі ўладамі ў 1927 годзе на два гады турмы.

Старшыня ТБК Хведар Нюнька ўзгадаў пра вядомага літоўскага навукоўца Тодара Іваноўскага (Тадаса Іванаўскаса), які паходзіў са славутага беларускага роду і быў родным братам вядомага беларускага дзеяча Вацлава Іваноўскага. Так сталася, што гэта сям'я дала дзеячоў для трох народаў: беларусаў, палякаў, літоўцаў. Сп. Хведар быў знаёмы з Тадасам Іванаўскасам, які быў выкладчыкам, калі ён навучаўся ў Коўна. Варта адзначыць, што Тадас Іванаўскас высока цаніўся ў Літве як навуковец. Сам жа Хведар Нюнька шкадуе, што, нягледзячы на сяброўства, да канца так і ня зблізіўся зь ім і ня зьезьдзіў разам на ягоную радзіму ў Беларусь.

Артур Юдыцкі ў сваім дакладзе закрануў праблему зьнішчэньня беларускай мовы ў БССР, а таксама і ў сёньняшняй Беларусі. Яго выступ быў прысьвечаны надрукаванаму ў 1957 годзе ў ЛІМе артыкулу Барыса Сачанкі супраць ігнараваньня беларускай мовы ў школьным навучаньні. Барыс Сачанка узьняў на ўвесь голас падняў трывогу ў сваім артыкуле "Шанаваць родную мову" і на довад сваіх сьцьверджаньняў аб дэградацыі беларускай мовы прывёў шмат фактаў. Ён з горычу канстатаваў: «Куды-б ты ні паступаў - у тэхнікум або інстытут - беларускай мовы й літаратуры здаваць ня трэба. Зайдзі ў любую арганізацыю, у любую ўстанову - усе справы вядуцца на рускай мове. Родная мова амаль не ўжываецца ні на шыльдах, ні на этыкетах».

Крыўдна, што і сёньня беларуская мова таксама цалкам ігнаруецца, прычым ня толькі афіцыйнымі ўладамі, але часам і беларускай апазыцыяй.

Валеры Радзюкевіч ў сваім выступе распавёў пра вядомага беларускага паэта, вязьня канцлягераў Сяргея Грахоўскага і зачытаў яго верш "Шлюб", каб прадэманстраваць ягоны талент. Сп. Радзюкевіч адзначыў, што, на вялікі жаль, у сёньняшняй Беларусі свае паэты не шануюцца і малавядомыя. Таму наш абавязак прапагандаваць іх імёны як мага шырэй.

Варта зазначыць, што беларусы сёньня ня ведаюць слаўных імёнаў нашай зямлі. Мы ганарымся тым, што ведаем Пушкіна, Талстога, Дастаеўскага, але ня лічым патрэбным найперш ведаць сваіх, беларускіх творцаў і іх спадчыну. Таму, з аднаго боку, беларуская культура вельмі багатая, створана надзвычай шмат, але яна не вядомая, перадусім, самім беларусам. Таму хочацца спадзявацца, што ўсё ж такі пакрысе мы будзем пазнаваць разам з дзеямі сусьветнай культуры і дзеі сваёй зямлі, якая нас нарадзіла, ускарміла. Таму будзьма беларусамі, будзьма чытаць вершы сваіх паэтаў, кнігі беларускіх пісьменьнікаў і вывучаць беларускую гісторыю не праз прызму расейскай, а як сваю!

Напрыканцы імпрэзы сваім выступам нас парадаваў украінскі хор "Світліца". Сталася ўжо добрай традыцыяй, што ўкраінскія сябры стала нас наведваюць. І вельмі прыемна ў іх бачыць родныя душы, бо ў многім праблемы, зь якімі сёньня сутыкнуліся беларусы, падобныя і да украінскіх, перадусім русіфікатарскія працэсы, якія працякаюць на нашых землях.

*Валер Радзюкевіч*
*Алесь Адамковіч*

# Ліст у Рэдакцыю

Сучасныя новыя эмігранты – пераважна маладыя людзі, якія захоўваюць яшчэ самую цесную повязь з родным домам, з блізкімі. Ім асабліва цяжка на чужыне і часам хочацца выказаць свой боль, падзяліцца думкамі са сваімі суродзічамі і такімі ж самымі выгнанцамі.

Вось такі верш мы атрымалі нядаўна.

**Крык душы!**

*Родная вуліца, родны падворак,*
*Роднае месца, мой мілы куток!*
*Мне наўспамін дома кожны вячорак,*
*Роднае слова і кожны грудок.*

*Дзе апынемся у нашым жыцьці мы,*
*Ніводзін ня знойдзе дакладны адказ.*
*Ды штосьці сьвятое туліцца ў душы.*
*А як потым успомняць пра нас?*

*Штоноч нам толькі сьніцца тое,*
*Чаго найбольш у жыцці не хапае…*
*Мірнае, любае, нешта жывое,*
*Народ наш, які доўга свабоды чакае.*

*Баімся ісьці сьцежкай няходжанай,*
*Казаць ва ўвесь голас думкі свае,*
*Бяжым адтуль, дзе былі народжаныя,*
*І мроім на чужыне, любы край, пра цябе.*

*Сумую, сумую па роднаму,*
*Міламу сэрцу, жывому кутку.*
*Але, лепш, чым таіцца бязмоўнаму,*
*Я ўдалечы напішу пра яго ў радку!*

*Алеся Лукашэвіч*

# Памёр вэтэран Адраджэньня гісторык Міхась Чарняўскі



20 студзеня 2013 года скончыў зямны шлях ініцыятар адраджэньня беларускай сацыял-дэмакратыі, выдатны беларускі археоляг і гісторык, пісьменьнік, грамадзкі дзеяч, дацэнт кафедры археалёгіі і дапаможных гістарычных дысцыплін Беларускага дзяржаўнага унівэрсытэта Міхась Чарняўскі.

Міхась Міхайлавіч Чарняўскі нарадзіўся 7 сакавіка 1938 года ў вёсцы Круці Вілейскага павета Віленскага ваяводзтва (цяпер Мядзельскага р-на Менскай вобл.). Скончыў гістарычны факультэт Менскага педагагічнага інстытута. З 1966 года працаваў навуковым супрацоўнікам Інстытута гісторыі Акадэміі навук, вывучаў матэрыяльную і духоўную культуру першабытных плямёнаў каменнага і бронзавага вякоў на поўначы і захадзе нашай краіны. У 1971 годзе па выніках дасьледаваньняў абараніў дысэртацыю "Неаліт Паўночна-Заходняй Беларусі".

Працуючы ў Інстытуце гісторыі, Міхась Чарняўскі ўваходзіў у клюб патрыятычна настроенай інтэлігенцыі, вядомы як "Акадэмічны асяродак". За сваё іншадумства ў 1974 годзе ён быў звольнены з працы ў Акадэміі навук.

Па вяртаньні ў Акадэмію навук Міхась Чарняўскі працягваў вывучэньне старажытнай гісторыі Беларусі. Міхась Чарняўскі загадваў аддзелам каменнага і бронзавага веку Інстытута гісторыі. Пяру вучонага належаць кнігі - "Неаліт беларускага Панямоння" (1979) і "Археалагічныя помнікі Міншчыны" (1988). Ён стаў таксама суаўтарам кнігі "Старажытныя шахцёры на Росі" (1996). "Ілюстраваная гісторыя старажытнай Беларусі" (1997) Міхася Чарняўскага, а пазьней яго "Ілюстраваная гісторыя старадаўняй Беларусі: Першабытны перыяд" (2003) сталі неафіцыйнымі падручнікамі для вучнёўскай моладзі.

У якасьці аўтара і рэдактара Міхась Чарняўскі ўдзельнічаў у падрыхтоўцы да друку такіх грунтоўных выданьняў, як "Гісторыя беларускага мастацтва", чатырохтомная "Археалёгія Беларусі" і "Гісторыя Беларусі" ў шасьці тамах. Вучоны быў навуковым кансультантам і аўтарам энцыкляпэдыі "Археалёгія і нумізматыка Беларусі" (1993), "Энцыкляпэдыі гісторыі Беларусі" ў сямі кнігах.

Нямала ўвагі Міхась Чарняўскі надаваў папулярызацыі гістарычных ведаў. З гэтаю мэтай ён пісаў кнігі для падлеткаў: "З глыбінь тысячагоддзяў" (1978), "Бронзавы век на тэрыторыі Беларусі" (1981), "Страла Расамахі" (1985), "Вогнепаклоньнікі" (1989), "Дзесяць бітваў" (2004). З-пад пяра вучонага выйшла папулярная біяграфія вялікага гетмана літоўскага Яна Караля Хадкевіча ("Правадыр крылатых вершнікаў", 1998.

Міхась Чарняўскі займаўся ня толькі старажытнай гісторыяй Беларусі. Яго і ягоную сям'ю зьвязвала сяброўства з выдатнай паэткай і пакутніцай ГУЛАГу Ларысай Геніюш. Менавіта яму паэтка аддала на захаваньне сваю "Споведзь", якая была апублікавана ўжо ў час палітычных перамен у Беларусі. Ён склаў зборнік матэрыялаў пра дзейнасьць мядзельска-смаргонскага антыкамуністычнага падпольля "Не бойцеся ахвяраў і пакут" (2006). У тым самым годзе сьвет убачыла напісаная М. Чарняўскім біяграфія героя антыкамуністычнага падпольля Расьціслава Лапіцкага "Як пошуг маланкі".

Ужо ў незалежнай Беларусі Міхась Чарняўскі быў другі раз звольнены з працы ў Інстытуце гісторыі. Аднак на гэты раз яго запрасілі выкладаць у Беларускі дзяржаўны універсітэт. Працуючы ў БДУ, вучоны напісаў вучэбна-мэтадычны дапаможнік "Каменны век на тэрыторыі Беларусі: ілюстраваны канспект лекцый" (2011).

Займаючы пасьлядоўна дэмакратычныя і патрыятычныя пазыцыі, Міхась Чарняўскі ў апошнія гады існаваньня Савецкага Саюза браў чынны ўдзел у руху за дэмакратычную незалежную Беларусь. Ён быў у ліку сябраў арганізацыйнага камітэта Беларускага народнага фронту. У час працы ўстаноўчага з'езду БНФ у Вільні (24 чэрвеня 1989 г.) ён выказаў думку аб неабходнасьці адраджэньня сацыял-дэмакратыі ў Беларусі. У канцы 1990 г. Міхась Чарняўскі стаў сябрам Ініцыятыўнай групы, а потым Арганізацыйнага камітэта дзеля стварэньня Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады (з 1996 г. – Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя). Як асноўнага аўтара першага партыйнага Статута, на ўстаноўчым зьезьдзе Грамады яго абралі старшынёй Цэнтральнай Кантрольна-Рэвізійнай Камісіі БСДГ. Шмат часу Міхась Чарняўскі аддаў стварэньню і працы ў Менскай гарадзкой і Заводзкай раённай арганізацыях партыі.

Актыўная і бескарысьлівая праца на ніве беларускай навукі і культуры зрабіла імя Міхася Чарняўскага адным з самых аўтарытэтных у беларускім грамадзтве. У асобе Міхася Міхайлавіча беларускія сацыял-дэмакраты страцілі аднаго з самых выдатных сваіх таварышаў, які пасьлядоўна адстойваў ідэалы незалежнай дэмакратычнай сацыяльнай праваvой беларускай дзяржавы, салідарнага грамадзтва.

Прэзыдыум Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамады)

Менскі гарадзкі камітэт Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамады)

# У памяць пра Міхася Чарняўскага



Вельмі цяжка разьвітвацца з сябрамі, калі яны заканчваюць свой жыцьцёвы шлях, а ты застаешся. 20-га студзеня ад сьмяртэльнай хваробы памёр Міхась Чарняўскі. Цяжка яшчэ і таму, што ўсё жыцьцё Міхася было ахвяравана сьветлай Беларусі, а паміраць прыходзіцца ў час цемры. Яшчэ б трохі было яму пажыць, калі засьвеціць сонца. А яно засьвеціць.

Я пазнаёміўся з Міхасём у 1964 годзе, калі ехалі разам у групе ў Ваўкавыск аглядаць крэйдавыя шахты нэалітычных людзей. З таго часу з камандай сяброў крочылі разам. У той змрочны час галоўнай задачай нашай актыўнасьці было дапамагаць беларусам у справе нацыянальна-культурнага адраджэньня сьвядомай асобы. Гэтаму галоўнаму Міхась Міхайлавіч прысьвяціў усё сваё жыцьцё. Ён асьветнік па духу, па характары, па ідэалёгіі. Такой працы як бы і не відаць, але яна якраз давала рэальныя і канкрэтныя вынікі. Ён зрабіў уклад ў навуку, у археалёгію, у навукова-папулярную літаратуру, у грамадзка-палітычную дзейнасьць, але ізноў жа - уся яго спадчына мералася любовяй да Бацькаўшчыны і беларускім асьветніцтвам свайго пакаленьня.

Пра дачыненьні на гэтай ніве можна напісаць цэлую кнігу. Тым больш што натуру Міхась меў сьветлую, характар добразычлівы і вылучаўся арганічным паўсюдным гумарам. У самых цяжкіх абставінах я ніколі ня чуў ад яго нараканьняў ці нейкіх упадніцкіх стогнаў. Наадварот і тут ён знаходзіў сьмешныя моманты і часам сьмяшыў нас да сьлёз. Тым ня менш ён быў чалавекам глыбокай душы і вельмі моцна ў сэрцы перажываў трагізм лёсу свайго народа.

Па сваёй сутнасьці Міхась ня быў асобай публічнай натуры (як, скажам, ягоны сябра Міхась Ткачоў). Сьціпласьць была яго важнай рысай характару. І таму асоба яго якбы не вылучалася. Але, ведаючы яго добра зь юнацтва і ягоныя справы, скажу, што як беларускі практычны дзяяч-асьветнік і навуковец, гэта быў чалавек-глыба, чалавек-беларуская скала, такі, як Лявон Баразна, Генадзь Каханоўскі, Яўген Кулік. А гэта ўсё людзі, на падвалінах якіх вырастала вольная незалежная Беларусь. На такіх людзях і будзе яна трымацца.

Хай стане мяккай табе родная зямелька, дарагі Міхась, у нашай сьветлай і пакутнай паднябеснай Беларусі, хай прыме цябе як роднага сына сваёй Айчыны, хай добра будзе табе ў Беларусі нябеснай, там, ў вышынях, дзе вечны спакой.

*Зянон Пазьняк*

## Спачуваньні

Парафіяльная Рада Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Нью-Ёрку выказвае самыя шчырыя спачуваньні кіраўніку Парафіі ў Гайлянд Парку пратаярэю **а. Зіновію Жалобаку** ў сувязі з адыходам у вечнасьць ягонай маці. Няхай Бог дасьць а. Зіновію духовай моцы перанесьці гэтую незваротную страту!

Парафіяльная Рада Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Нью-Ёрку і Управа Бруклінскага аддзелу БАЗА выказваюць спачуваньне парафіяніну і сябру Аддзела **Міколу Шчэрбу** з нагоды раптоўнай сьмерці ягонай маці Валянціны. Вечны ёй супакой і вечная памяць у душы сына!

# «Вольны тэатар» ізноў на на Мангэтане



З 9 па 20 сьнежня сёлета меў свае выступы ў Нью-Ёрку "Вольны тэатар" з Менску, які нью-ёркская тэатральная публіка ведае па яго-ных ранейшых гастролях. Гэтым разам беларускіх артыстаў запрасілі да ўдзелу ў Under The Radar Festival 2013, які праходзіў у прыгожым будынку The Public Theater на Мангэтане. Трупа прывезла для паказу адзін спэктакль пад загалоўкам "Менск, 2011. Адказ для Кэты Акер" (A Reply to Kathy Acker). Сэнс ягонага зьместу – гэта своеасаблівы, спраектаваны на беларускія рэаліі адказ на вядомую кнігу Кэты Акер "Нью-Ёрк у 1979". Спэктакль "Менск, 2011" зьяўляецца партрэтам мэтраполіі, убачаным праз прызму яе сэксуальнага жыцьця. "Гэта адна з найбольш яскравых і вынаходлівых падпольных трупаў на гэтай плянэце", — так пра беларускі "Вольны тэатар" напісаў Бэн Брэнтлі, галоўны тэатральны крытык The New York Times з нагоды паказу гэтага спэктаклю (нумар за 18 студзеня 2013). Бэн Брэнтлі высока ацаніў мастацкія якасьці рэжысэрскай задумы і таленавітае выкананьне яе артыстамі:
"Спэктакль, задуманы і пастаўлены Уладзімерам Шчэрбанем, зьяўляецца шурпатай мазаікай эпізодаў, якія адлюстроўваюць сьвет, дзе гвалт вымушае маўчаньне, а сэкс і прыемнасьць толькі зрэдку азначаюць адно і тое ж...

Нешта містычнае — сцэна, якая выклікае і страх, і подзіў — прабівае-цца пад канец "Менску, 2011", прыгожага і брутальнага спэктаклю, пастаўленага беларускім "Вольным тэатрам". Як шмат іншых уражальных эфэктаў у тэатры, і гэты дасягаецца пры дапамозе вельмі простых сродкаў: чорнага атраманту, доўгага рулёну бурай паперы і агаленай жанчыны.

Гэта гучыць як пачатак анэкдоту, праўда? Але назваць анэкдатычным тое, што адбываецца ў гэтай сцэне, мы можам толькі ў касьмічным сэнсе — часам можна пабачыць такое ў сцэнах, якія адлюстроўваюць помсту або адплату. Безумоўна, усё, што нам паказваюць, трэба ўспрымаць як мэтафару, але гэта такая мэтафара, якую адчуваеце сваім нутром, якая ўбівае свае кіпцюры ў вашае ўяўленьне і пакідае ў ім шнары...

Сэкс, паказаны некалькі разоў у гэтым спэктаклі, не выклікае эратычнага ўзбуджэньня..."

І гэта сапраўды так, мабыць, таму, што сэкс – гэта толькі сродак, праз які адлюстроўваюцца жорсткія рэаліі жыцьця ў сталіцы краіны, дзе пануе дыктатура, дзе ўсё забаронена. Таму сэкс у спэктаклі густа перамешваецца з палітыкаю, палітычнае становішча ў Беларусі выяўлецца вельмі яскрава праз сцэнкі акцыяў пратэсту, арыштаў і допытаў, праз гвалт над жыцьцём звычайнага чалавека, страшны тым, што можа ператварыць чалавечую істоту ў пачвару.

Мне самой давялося паглядзець спэктакль, і магу пацьвердзіць, што публіка вельмі актыўна ўспрымала дзею на сцэне. Заля недзе на пяцьсоцень гледачоў была запоўненая цалкам, пераважна моладзьдзю. Спэктакль ішоў на расейскай і сямтам на беларускай мовах з ангельскімі тытрамі на экране. Канешне, прысутным беларусам вельмі хацелася, каб заместа расейскай гучала толькі беларуская мова. Будзем спадзявацца, што тэатар некалі прыйдзе да гэтага перакананьня. Прынамсі, навучыцца ў тых краінах, дзе гастралюе, шанаваць, найперш, сваё. Мастацкае, творчае разьвіцьцё тэатра павінна прывесьці і да больш высокага духоўнага ўзроўню.

На мой погляд, выдатнай знаходкаю сталася ў спэктаклі апошняя сцэна. Пасьля таго, як гледачы пабачылі тое пачварнае аблічча Менску, якое нанесена гадамі камуністычнага панаваньня і новай дыктатарскай антыбеларускаю ўладаю, ім было адчынена і іншае сьветлае аблічча старажытнага гораду, дзе некалі цякла паўнаводная Няміга і які застаецца родным домам для беларусаў і для самых артыстаў. Кожны зь іх шчымліва распавёў пра свой Менск, што для яго там дорага і блізка, чаму ён вяртаецца туды ізноў і ізноў пасьля вандровак у іншыя краіны і больш знакамітыя гарады.

Як чула потым, што ня толькі ў той дзень, калі я глядзела спэктакль, але і ў іншыя дні, заля была поўная. Нью-Ёрская публіка ўжо добра абазнаная пра існаваньне беларускага тэатру. Прызнаюся, што вестку пра сёлетні выступ тэатру я найперш даведалася ад маёй знаёмай – прафэсаркі архітэктуры, турчанкі па паходжаньню.

Калі мы зь сяброўкаю выйшлі пасьля спэктаклю на шумлівыя вуліцы Мангэтана, ня верылася, што менавіта тут, у сэрцы Нью-Ёрка, мы чулі словы – Беларусь, Менск, Няміга. Чулі іх ня толькі мы, але і шматлікія гледачы-амэрыканцы, якія цяпер ужо так шмат ведаюць пра нашу краіну. Дзякуй артыстам, якія прывезьлі сюды кавалачак Беларусі!

*Ганна Сурмач*



# Пасьля гастроляў

Кіраўнікі "Вольнага тэатра" і кампаніі Free Belarus Now правялі шэраг сустрэч у Дзяржэпартамэнце ЗША.

Наталля Каляда і Мікалай Халезін сустрэліся ў Вашынгтоне з намесьнікам памочніка дзяржсакратара ЗША ў пытаньнях дэмакратыі, правоў чалавека і працы Томасам Меліям, прадстаўніком Бюро эўрапейскіх і эўразійскіх спраў Дзяржэпартамэнта ЗША Дэніэлам Расэлам і каардынатарам пытаньняў палітыкі ў галіне міжнародных сувязяў і інфармацыі Філіпам Вэрвээрам.

Пад час сустрэчы абмяркоўвалася патрэба ўвядзеньня больш жорсткіх санкцый супраць рэжыму Лукашэнкі, супрацоўніцтва кампаніі Free Belarus Now зь юрыдычнай кампаніяй, што правяла Акт Магніцкага, падрыхтоўка пашыранага сьпісу беларускіх прадпрыемстваў і афіцыйных асоб, адказных за рэпрэсіі і фальсіфікацыі, прасоўваньне гэтага сьпісу ў Эўразьвязе, дзе новыя юрыдычныя ўмовы і прэцэдэнт з Актам Магніцкага дазваляюць узмацніць ціск на беларускія ўлады.

Халезін і Каляда таксама распавялі амэрыканскім дыплёматам пра сытуацыю з палітычнымі зьняволенымі, варункі ўтрыманьня іх у турмах і ўзмацненьні рэпрэсій супраць апазыцыі.

Супрацоўнікі Дзяржэпартамэнта запэўнілі беларусаў, што пры зьмене кіраўніцтва замежнапалітычнага міністэрства ЗША беларуская тэма ня сыдзе з поля ўвагі Дзяржэпартамэнта і адміністрацыі Барака Абамы.

Адбыліся таксама сустрэчы з прадстаўнікамі Хельсынскай камісіі Кангрэсу ЗША Орэстам Дзячкоўскім і Полам Картэрам, супрацоўнікамі офіса сэнатара Дзіка Дурбіна і кіраўніком няўрадавай арганізацыі Freedom House Дэвідам Крэмэрам.

# "Малітваслоў" па-беларуску

Словамі пра тое, што "трэба заўсёды маліцца й ня падаць духам" (Лк, 18, 1) пачынаецца прадмова да "Праваслаўнага малітваслова", выдадзенага ў канцы 2012 году прыхаджанамі менскага Сьвята-Петра-Паўлаўскага сабору. Гэта ўжо другое выданьне "Малітваслова" (першае было ў 2004 годзе), цяпер яно дапоўненае ды ўдакладненае. Пераклад з царкоўнаславянскіх і грэцкіх тэкстаў зроблены кандыдатам багаслоўя, прафэсарам Менскіх духоўных школаў пратаярэем Сергіем Гардуном.

У "Праваслаўным малітваслове" зьмешчаныя Малітвы ранішнія, Малітвы вячэрнія, Пасьледаваньне да Сьвятога Прычасьця, Малітвы падзякі, Малітвы розныя, а таксама Вялікодны канон. Кніга мае прыгожы клясычны дызайн, цьвёрдую вокладку з выяваю крыжа Эўфрасіньні Полацкай, зручны для карыстаньня ("кішэнны") фармат.

Сярод ахвярадаўцаў на гэтае выданьне былі й беларусы Амэрыкі Валерый Дворнік (240), Вітаўт Кіпель (100), Ганна Лукашэвіч (60), Ірына Грышкевіч (50), Міхась Караненскі (50), Серж Трыгубовіч (25), Кастусь і Марыя Верабей (20), Якуб Сапяжынскі (20), Ганна Стагановіч (20), Дзяніс Талпека (20), Людміла Бакуновіч (10), Алекс і Марына (5).

Набыць гэты самы поўны на сёньня "Праваслаўны малітваслоў" на беларускай мове можна ў Менску, у кнігарні пры Сьвята-Петра-Паўлаўскім саборы.

*Валянціна Трыгубовіч*

# Каляндар памятных датаў на люты 2013 году

**1 лютага** – 150 гадоў таму, у 1863 годзе, пад час паўстаньня Літоўскі правінцыйны камітэт абвясьціў сябе Часовым правінцыйным урадам Літвы і Беларусі

**1 лютага** – 95 гадоў таму, у 1918 годзе, заснавана Віленская беларуская гімназія

**2 лютага** – 175 гадоў таму, у 1838 годзе, нарадзіўся Кастусь Каліноўскі

**2 лютага** – 45 гадоў таму, у 1968 годзе, адкрыўся літаратурна-этнаграфічны музэй у в. Гудзевічы Мастоўскага р-на

**4 лютага** – 205 гадоў таму, у 1808 годзе, нарадзіўся Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, паэт, драматург, адзін з заснавальнікаў новай беларускай літаратуры

**4 лютага** - 35 гадоў таму, у 1978 годзе, памёр Аркадзь Куляшоў, паэт

**6 лютага** – 115 гадоў таму, у 1898 годзе, нарадзіўся Леў Акіншэвіч, беларуска-украінскі гісторык, дзеяч эміграцыі ў ЗША (памёр у Нью-Ёрку)

**8 лютага** – 120 гадоў таму, у 1893 годзе, нарадзіўся Антон Неманцэвіч, рымска-каталіцкі сьвятар, грамадзкі дзеяч

**8 лютага** – 75 гадоў таму, у 1938 годзе, расстраляны Мікола Гуткоўскі, грамадзкі дзеяч

**9 лютага** – 100 гадоў таму, у 1913 годзе, у Вільні адбылася першая пастаноўка п'есы Я. Купалы "Паўлінка"

**10 лютага** – 145 гадоў таму, у 1868 годзе, нара дзіўся Карусь Каганец (Казімір Кастравіцкі), паэт, пісьменьнік, мастак, удзельнік нацыянальна-вызваленчага руху

**10 лютага** – 130 гадоў таму, у 1883 годзе, нарадзіўся Станіслаў Булак-Булаховіч, вайскова-палітычны дзеяч, кіраўнік паўстаньня супроць савецкай улады.

**10 лютага** – 75 гадоў таму, у 1938 годзе, расстраляны Максім Гарэцкі, пісьменьнік, літаратуразнавец, фальклярыст

**12 лютага** – 215 гадоў таму, у 1798 годзе, памёр апошні кароль Рэчы Паспалітай і вялікі князь Літоўскі Станіслаў Аўгуст Панятоўскі

**15 лютага** – 55 гадоў таму, у 1958 годзе, памёр Язэп Рэшаць, рэлігійны і культурны дзеяч

**15 лютага** – 15 гадоў таму, у 1998 годзе, у Менску адбыўся ўстаноўчы зьезд партыі Беларуская Сацыял-Дэмакратычная Грамада

**18 лютага** – 120 гадоў таму, у 1893 годзе, нарадзіўся Максім Гарэцкі, пісьменьнік, літаратуразнавец, фальклярыст

**19 лютага** – 105 гадоў таму, у 1908 годзе, нарадзіўся Станіслаў Шушкевіч, паэт, празаік, вязень сталінскіх лягераў

**20 лютага** – 25 гадоў таму, у 1988 годзе, памёр Павал Каруза, грамадзка-палітычны дзеяч, кампазытар, этнамузыказнавец, вязень сталінскіх лягераў

**21 лютага** – Міжнародны дзень роднай мовы

**21 лютага** – 95 гадоў таму, у 1918 годзе, абвешчана Першая ўстаўная грамата Беларускай Народнай Рэспублікі і створаны першы беларускі ўрад - Беларускі Народны Сакратарыят

**22 лютага** - 95 гадоў таму, у 1918 годзе, памерла Соф'я Кавалеўская, фальклярыстка, этнограф, пісьменьніца

**23 лютага** – 110 гадоў таму, у 1903 годзе, нарадзіўся Вінцэнт Жук-Грышкевіч, грамадзка-палітычны дзеяч, старшыня Рады БНР у 1970-1982 г.г.

**27 лютага** – 90 гадоў таму, у 1923 годзе, у Празе створаны клюб "Беларускі сокал" – патрыятычна-спартыўная арганізацыя беларускіх студэнтаў (па узору чэшскага сакольскага руху)

## Вікторыя Азаранка перамагла на Australian Open



Беларуская тэнісістка Вікторыя Азаранка 26 сьнежня ў аўстралійскім горадзе Мэльбурн перамагла ў фінале турніру Australian Open кітаянку Лі На (6 месца ў рэйтынгу) — 2-1 (4-6, 6-4, 6-3)

У выніку перамогі Азаранка ўмацавалася на першым радку ўсясьветнага рэйтынгу жаночага тэнісу. Для яе гэта быў трэці фінал у турнірах «Вялікага шлему». Год таму, таксама ў Аўстраліі, Азаранка выйграла ў фінале ў Марыі Шарапавай. Другі фінал Азаранка прайграла — летась на US-open амэрыканцы Сэрэне Уільямс.

## Сцэнкі з жыцьця

*Мы распачынаем новую рубрыку, у якую вы можаце дасылаць самыя розныя гісторыі, зацемкі пра цікавыя выпадкі ў вашым жыцьці на чужыне. Не толькі ж маем мы тут цяжкасьці, але і вясёлыя, сьмешныя моманты перажываем, а можа, нават драматычныя і небясьпечныя. Адным словам, дзяліцеся з нашымі чытачамі тым, што вам асабліва запомнілася.*

### Беларуска з Гомелю

Наш знаёмы, які завітаў аднойчы ў беларускі цэнтр на Атлянтык Авэню, распавёў пра нечаканую сустрэчу ў адным з амэрыканскіх аэрапортаў. Ён там меў перасадку і спрабаваў дапытацца, дзе гэтую перасадку трэба рабіць. Заўважыў групу дзяўчат у форме служачых аэрапорта і падышоў да іх са сваім запытаньнем. Яму ветліва патлумачылі. Ён падзякаваў і ўжо зьбіраўся адыйсьці, як дзяўчаты, заўважыўшы ягоны замежны акцэнт, пацікавіліся, адкуль ён. Хлопец адказаў, што з Беларусі і ў сваю чаргу запытаўся, ці яны ведаюць, дзе знаходзіцца такая краіна. І тут адна чорнаскурая дзяўчына весела ўсклікнула: "Канешне, я ж беларуска, з Гомелю". Аказалася, што яна сапраўды нарадзілася і вырасла ў Гомелі, маці-беларуска, бацька-мурын, гадоў дзесяць таму прыехала ў Амэрыку і засталася тут жыць, але Радзіму не забывае і сама была прыемна ўражаная сустрэчаю з земляком.

## На выданьне "Беларуса" ахвяравалі:

| | |
|---|---|
| Юля Андрусышын | $ 50 |
| Ксеня Баранава | $ 50 |
| Міхась Баяроўскі | $ 60 |
| Людміла Бакуновіч | $ 50 |
| Элізабэт Бакуновіч-Грыц | $ 50 |
| Міхась і Тамара Белямук | $ 50 |
| Яраслаў і Кацярына Вініцкія | $ 100 |
| Анна Жызнеўскі | $ 60 |
| Аксана Загорская | $ 50 |
| Іван Кацярыніч | $ 20 |
| Вітаўт Кіпель | $ 200 |
| Алеся Лукашэвіч | $ 50 |
| Мікола і Вера Прускі | $ 50 |
| Анатоль Пранцевіч | $ 50 |
| Сяргей Пятровіч | $ 50 |
| Галіна Руднік | $ 100 |
| Аляксандр Сірыцын | $ 50 |
| Вікторыя Судакова | $ 50 |

**Вялікі дзякуй усім ахвярадаўцам!**

**БЕЛАРУС**
*Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце*
Выдае:
***Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне***
**BIELARUS**
*Belarusan Newspaper in the Free World*
Published by
***Belarusan American Ass'n, Inc.***

**Склад Рэдакцыі:**
Ганна Сурмач – адказны рэдактар (surmacova@gmail.com)
Алена Высоцкая – адказная за кампутарную вёрстку
Таня Красоўская – скарбнік, арганізатар падпіскі (premiere718@yahoo.com)
Галіна Падлеская – рэдактарка дзіцячай старонкі galinapodles@hotmail.com
Валеры Дворнік - адказны за друк
Натальля Старавойтава - адказная за рассылку газэты

Артыкулы падпісаныя прозьвішчамі ці ініцыяламі, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не пагаджаецца.

**Адрасы Рэдакцыі:**
Паштовы адрас:
***Hazeta Bielarus***
***166-34 Gothic Drive***
***Jamaica, NY 11432***
***USA***

**Грашовыя чэкі выпісываць на імя : *BIELARUS newspaper*** дасылаць скарбніку на паштовы адрас рэдакцыі.

**Электронны адрас (email): bielarus@bazahq.org**

*Адказнасьць за зьмест рэклямы нясе рэклямадаўца.*